© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (2034) ГОД XL БЕЛАСТОК 7 МАЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

## Подых вясны і надзеі

Калі толькі павеяла вясной, спакавала я свой рукзак і рушыла ў доўгачаканае падарожжа. Вёскі ў наваколлі Кляшчэль даўно сніліся мне па начах.

У Грабавец трэба было ехаць палову дня на некалькіх аўтобусах, праз Бельск, Кляшчэлі. Па-беларуску пачалі гаварыць у Бельску. Кабеты з Ляўкоў вярталіся са споведзі, іншыя — з Маліннік, Сухавольцаў, Залешан — рабілі святочныя пакупкі.

— Ой як той чоловек выпосціцца за тыя сорок дні, — гаманілі цёткі ды яшчэ размаўлялі пра посныя стравы.

— Я то навару кострулю груш і ем іх тры дні, — гаварыла адна бабуля.

Не дзіва, якраз была Вялікая серада. Атмасферу Вялікага тыдня папаўнялі сціплыя і цёмныя вопраткі бабуль, быццам оптам закуплены цэлай аколіцай. Усе былі апрануты на адзін манер, які толькі сустракаем на беларускай вёсцы Беласточчыны і за ўсходняй мяжой.

— Добрэ, што хоч нашы ўнукі нас шчэ любят, бо тыя молодыя, то на нас старых глідіті нэ хочут, — наракалі тыя ж пасажыркі. І калі я мела высядаць у Грабаўцы, ужо ведала пра ўсе няшчасці, хваробы, дзяцей, вялікапосныя перажыванні маіх спадарожніц.

У вёсцы сустрэў мяне чырванашчокі дзядзька, па-будзённаму падпярэзаны паяском. Паказваючы рукой у глыб вёскі, расказаў пра ўсе важныя і вартыя наведання месцы ў Грабаўцы. Заўсёды з назвай Грабавец прыгадваўся мне рад славутых беларусаў: Вера Маслоўская, Скамарох ці Васіль Петручук і ягоная „Пожня". Але сёння цікавіла мяне яшчэ адна асаблівасць гэтай мясціны. Аднойчы ў Гайнаўцы падслухала я, як вяскоўцы размаўлялі пра свае хваробы, няшчасці і спосабы лячэння.

— Прыезджайте до нас, у Грабовець, тут аж штыры бабы замоўляе. І хлопэць одын. До нас то аж с-пуд Варшавы жэнуцьця, — рэкамендавала наракаючай бабулі цётка з Грабаўца. Будучы на месцы цяжка было спачатку запамятаць усе цікавыя мне асобы і хаты.



*У Грабаўцы пачаліся ўжо веснавыя палявыя работы.*

— Люба за склепом, Іван дэ білы плут, Ганна ў куньцы, Нінка за Гаямі, а Марыя за вёскою, дэ мліны стоят, — паяснялі вяскоўцы, аж віравала ў галаве.

— Хлопэць то од нэрвув лічыт. Як доткнецьце то кажут, аж пронт пуйдэ. Але як такая молодая зайдэ, то хіба сховаецьця, — падказвалі людзі ў магазіне. Рабілі яны святочныя пакупкі.

— Слабо тут люды купуют, — заявіў мілагучна прадаўшчык, дзядзька з добрымі вачыма. У вёсцы яшчэ адзін прыватны „склеп".

*(Пра ўсіх згаданых цётак і Івана чытайце ў наступным нумары „Нівы").*

Хаця Грабавец стройны, адбудаваны і вялізны (недзе 170 дамоў), пайшоў ужо працэс вымірання вёскі. У шасці дамах ужо забіты вокны. Не кідаецца гэта яшчэ ў вочы. Але ў Пачатковай школе, дзе ходзяць дзеці з другой вялікай вёскі Елянкі, толькі 26 вучняў. Няма таксама зацікаўлення „Нівай". Мае субяседнікі налічылі толькі двух пастаянных чытачоў нашага тыднёвіка. Дарэчы, некалькі разоў ад вяскоўцаў пачула я сентыментальныя ўспаміны пра беларускую школу.

— Ты руска будэш! — рытарычна папыталася адна цётка, якую на працягу некалькіх гадзін заўсёды сустракала на вуліцы. Дарэчы, усіх жанчын вельмі цікавіла не толькі мэта майго падарожжа, але і больш прыватныя справы.

— А чого ж ты пуйдэш до тойі Руткі? — цікавіліся кабеты, у якіх пытала я пра дарогу. Трэба было ўсё тлумачыць, а то выправілі б на не тую дарогу? Ужо калі я апынулася на палявой дарозе, вечарэла. Пах зямлі, гною і свежай травы разносіў веснавы, ласкавы вецер.

— Ідзі па маім жыце да дарогі, — прапанаваў здзіўлены дзядзька, што працаваў у полі. Людзі масава працавалі на нівах. Хто сеяў штучныя ўгнаенні, хто араў, адзін нават садзіў бульбу. Штораз па жвіровай дарозе ганяліся з грукатам трактары. У лесе, які акружае Рутку, зацвілі пралескі, падбелы. Побач дарогі на кожным кроку вырастала гурба лому, адкідаў ад сельскай і хатняй гаспадаркі. Магчыма, што ў час Сусветнага тыдня зямлі пацікавяцца гэтым няшчасным лесам настаўнікі біялогіі з навакольных школ.

У самой Рутцы прыгожа, быццам у казцы. Але такое ўражанне перш за ўсё склалася ў выніку сустрэчы з гасціннай сям'ёй спадарства Багроўскіх. Эля і Пятро Багроўскія не надта здзівіліся маім візітам. Да іх часта заязджаюць журналісты. Нават чатырохгадовая Эва заўважыла, што многія іхнія госці маюць гадзіннікі „як у таты", гэта значыць з Пагоняй.

Яшчэ ў студэнцкія часы Пятро, адзін з самых аўтарытэтных басаўцаў, намаўляў усіх вяртацца на Бацькаўшчыну.

— У іншым выпадку, — маўляў ён, — астанемся без зямлі і каранёў, быццам тыя выгнаннікі яўрэі.

Зараз, як адзін з нямногіх, вярнуўся ў вёску. Пабудаваў сабе хату, нажыў сям'ю. Дзякуючы Пятру, я пазнаёмілася з жанчынай-легендай, Ганнай з Руткі. Прыйшла яна на вячоркі і пяцігадзінныя „пасідзінкі" мільганулі быццам адна хвіліна. Уражанне ад гэтай сустрэчы ашарашыла мяне. Да сёння думаю пра гэтае здарэнне. Ганна не толькі замаўляе хваробы, будуе цэрквы але яна — маральны аўтарытэт у наваколлі. Калі бяда спасцігне чалавека або вырашаюцца грамадскія справы, многія ідуць да Ганны.

— Аздаравіць беларускі народ можна яшчэ, — прарочыла яна, — але ўсе практыкі трэба весці ў манастыры з божай дапамогай.

Ідэя, якая сніцца Ганне па начах, гэта пабудова манастыра ў Малінніках. На жаль, супраць яе стараннаяў вырастаюць непрадбачныя абставіны. Дзякуючы славе гэтай кабеты, Рутку наведваюць многія жыхары навакольных вёсак і мястэчак. Вёска тут невялікая (30 дамоў), затое прыгожая. На самым пачатку цячэ крыштальны, чысты ручай. Усе вяскоўцы давялі да парадку свае агародчыкі.

Яшчэ па дарозе ў Гайнаўку завітала я разам з Пятром у Дубічы-Царкоўныя. Там мне пашчасціла сустрэць Мікалая Панфілюка, карэспандэнта і папулярызатара „Нівы". Пісьманосец якраз разносіў свежыя газеты. У сумцы, як за старых часоў, пераможна віднеў беларускі тыднёвік.

— Прыязджайце да нас як цяплей будзе, — запрашалі жыхары гэтай добрай, гасціннай аколіцы. Шмат з іх віншавалі мяне з надыходзячым святам. Ды і, здаецца, зацікаўленне нашай газетай павялічылася.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**



*Злева: Пятро Багроўскі, Мікалай Панфілюк і Мікалай Кендысь у Дубічах-Царкоўных.*

## З'ЕЗДЗІЦЬ У ГРОДНА

4.10. „Скоры" цягнік Гдыня — Гродна пакідае беластоцкую станцыю і рухаецца ў бок узыходзячага сонца. Пасажыры — няшмат іх, галоўным чынам жанчыны ў пенсіённым узросце і дваццаціпаругадовыя юнакі — зручна ўладкоўваюцца на сядзеннях. Гадзіну можна падрамаць, да граніцы.

Па дарозе цягнік стае, відаць, на кожным прыпынку і за Саколкай амаль запаўняецца. Сонная атмасфера, аднак, не парушаецца. Сам цягнік выглядае надзіва акуратна — чыста, сцены абклеены чымсьці, што нагадвае мармур (падобны да сапраўднага, як у Гайнаўскім беларускім музеі).

Кантроль на мяжы ўсяго паўярхоўны. Крыху стаім, але тым, хто яшчэ памятае савецкую мяжу, здасца гэта дробяззю. Таксама як і тры гадзіны на дарогу (хаця папраўдзе, якая гэта дарога, кіламетраў пад 70 будзе, не больш). Перад гродзенскім вакзалам пасажыры разбуджваюцца канчаткова, хапаюць свае торбы і ледзь не на хаду выскакваюць на перон. Адна цётка так спяшалася, што на амін трапіла б пад другі цягнік, каб у апошні момант не схапіў яе за каўрашы чалавек у мундзіры чыгуначніка. Ну і трос ён потым гэтай цёткай! І брыдка лаяўся.

**Сапраўдныя прыгоды пачынаюцца** калі збіраешся назад. Навучаны ранейшымі выездамі, зваротны білет купіў я ўжо ў Беластоку, а ў Гродне, толькі прыехаўшы парабіў усе патрэбныя „кампасціроўкі", ці як іх там завуць. Сустрэўшыся з сябрамі і дакладна нічога не абсправіўшы, хаця сядзеў я па паўгадзіны ажно ў трох прыёмных найважнейшых гродзенскіх устаноў, пабег я на цягнік, які адпраўляецца ў 16.50. На вакзале быў я амаль гадзіну перад ад'ездам і там жахнуўся. Не, не ад чаргі, бо на гродзенскім вакзале бачыў я не такія. Чарга якраз была акуратная, хвілін на дваццаць. Жахнула мяне тое, што для гэтай чаргі падрыхтавалі... клеткі! Так, менавіта клеткі. Дакладна такія, з якіх у цырку выпускаюць ільвоў ці нейкіх іншых сабак. І кожны чалавек павінен прайсці праз такую, дзесьці пяціметровую, клетку, каб трапіць у рукі мытнікаў і пагранічнікаў

Стаяў я сабе спакойна ў чарзе, дачакаўся клеткі, памаленьку прасунуўся да яе выхаду, моўчкі сцярпеў нахабнага дзядзьку, які трапаў мяне ў спіну сваёй шапкай, што была яму за веер. Але сапраўдны сюрпрыз быў наперадзе. Чалавек у скуранай курткі, які сабою загароджваў выхад з клеткі, аб'явіў, што камплектаванне пасажыраў кончана. Засталося нас чалавек пятнаццаць. Наступны цягнік у тры ночы. Што тут рабіць? Людзі пачалі прасіцца плачлівымі галасамі. Адна жанчына дык і сапраўды заламантавала, злажыўшы рукі на грудзях, маўляў, хтосьці з сям'і прайшоў ужо, а як жа я застануся.

Настрой ляманту чалавек вельмі хутка пераймае. Давай і я прасіцца, ледзь не са слязамі ў вачах, тыцкаючы гэтаму тыпу ў сіграну службовую візу пад нос. „А пайшоў ты нах... са сваімі візамі", — дапамог ён мне разабрацца ў сітуацыі. Давай я чапляцца да афіцэраў, якіх там бы сабак

*Працяг на стар. 3*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Do rozległego kompleksu gmachów Białoruskiej Akademii Nauk codziennie przychodzą setki naukowców. Chociaż od dawna nic nie robią, co miesiąc dostają pensję w białoruskich rublach. Dziś wyraźnie widać, że Łukaszenka nie ma żadnych pomysłów na rządzenie państwem. Liczy tylko na Moskwę. Tak się składa, że Jelcyn pilnie potrzebuje jakiegoś sukcesu. Zrzeczenie się przez Białoruś symbolów niepodległości zapewne wzmocniłoby Jelcyna. Łukaszenka gotów jest więc oddać Rosji emblematy, bo już nic innego nie ma.*

*Łukaszenka rozumie państwo jak sowchoz. Swoje sowchozowe doświadczenia przenosi na najwyższe stanowiska w niepodległym państwie. Dyrektorowi sowchozu nie są potrzebne instrumenty demokracji. Wydaje polecenia i oczekuje ich wykonania, kiedy tak się nie staje, wyrzuca winnych i ustanawia następców. Kiedy sztandarowe pismo białoruskiego parlamentu „Narodnaja Hazieta” nie chciała pisać dobrze o prezydencie, ten wyrzucił z pracy jej redaktora naczelnego, mimo iż formalnie nie miał do tego prawa. Gazetę wydaje parlament a nie prezydent. I co z tego, jeśli w parlamencie nikt nie zaprotestował. Wszyscy widać uznali, że tak musi być. Jak w sowchozie.*

*(Kurier Poranny, nr 88)*

За што такая ганьба спатыкае Беларусь?

* * *

*У Расіі нельга выпісваць газеты і часопісы на беларускай мове, а рускіх газет і часопісаў мноства ў Беларусі. Чаму не зрабіць так: колькі назваў газет і часопісаў рускіх дазволены выпісваць у Беларусі, столькі беларускіх у Расіі.*

*(Голас Радзімы, н-р 14)*

От, жарт веснавога сезона!

* * *

*Спачатку былі толькі чуткі... Чуткі, што першы Прэзідэнт рэспублікі і шмат хто з яго каманды не будзе падтрымліваць палітыку беларускасці, не будзе сачыць за выкананнем Закона аб мовах, да таго ж — і сам ніколі не будзе гаварыць па-беларуску. І вось прэзідэнт заявіў у „Звяздзе”: „Я абяцаў ініцыіраваць рэферэндум аб дзяржаўнасці двух моў. Я гатовы ісці на гэты рэферэндум”.*

*Ідэя падобнага рэферэндуму магла ўзнікнуць толькі у галовах людзей абсалютна гістарычна неадукаваных, недалёкіх палітыкаў, поўнасцю недасведчаных. Ісці за імі кіраўніку незалежнай быццам бы дзяржавы не да твару. Было б дзіўна, а нават дзіка, калі б у Францыі ці Нямеччыне публічна дыскутавалася пытанне ці трэба весці навучанне ў школах на англійскай мове. Там дзяржава ахоўвае нацыю, а не наадварот.*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 14)*

Бо там ёсць і народ, і дзяржава.

* * *

*Lider „Solidarności” Marian Krzaklewski stwierdził w telewizji, że gdyby kandydował w wyborach prezydenckich, odebrałby Kwaśniewskiemu pół miliona głosów kobiet popierających lidera SLD ze względu na jego urodę.*

*(Wprost, nr 16)*

Кандыдаты ў прэзідэнты, як бачым, пачынаюць улічваць у выбарчай кампаніі і сваю эратычную прывабнасць. Выглядае на тое, што прэзідэнтам не будзе ні Валэнса, ні Стжэмбаш, ні Алексы. Пэўна з увагі на гэты фактар Курань пачаў паказвацца ў гальштуку. Жанчыны ў нашай рэдакцыі першыя гэта заўважылі.

* * *

*Najpoważniejszy kandydat na prezydenta III Reczypospolitej pochodzi z Suwalszczyzny. Jest nim Janusz Bryczkowski, szef Polskiego Frontu Narodowego. Jest to kandydat, który ma także własny program. Główny punkt tego programu brzmi: „Gdy wygram, kopalnie i pola naftowe przekażę polskim firmom”. Te kopalnie jeżeli w ogóle są, to są na Syberii. Bryczkowski przywiązuje dużą wagę do poprawy stosunków z Rosją. Twierdzi, że w kiełbasie wysyłanej z Polski do Rosji jest tylko 20 procent kiełbasy. Chce to zmienić. Poza tym ogłosił koniec starań o wejście do NATO.*

*(Gazeta Współczesna, nr 75)*

Таксама цікавы кандыдат. Беларускі электарат з Беласточчыны не павінен мець падстаў для наракання, што няма на каго галасаваць.

* * *

*Parlament Białorusi przywrócił na żądanie prezydenta Łukaszenki rocznicę Rewolucji Październikowej jako święto państwowe.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 90)*

Да здравствует Октябрьская Революция! Да здравствует товарищ Ленин! Да здравствует товарищ Лукашенко! Ура!!!

* * *

*Polacy na Białorusi to nasz wielki kapitał, — stwierdził marszałek Senatu Adam Struzik po wizycie na Białorusi. Ważne jest to, że prawa polskiej mniejszości na Białorusi są przestrzegane. Polacy na Białorusi posługują się bez przeszkód mową ojczystą. Budują szkoły, domy kultury, odbudowują kościoły. Środowiska polskie chciałyby mieć dostęp do polskich mediów: radia i telewizji. Biorąc pod uwagę lepsze warunki stworzone w Polsce mniejszości białoruskiej, należałoby spodziewać się bardziej energicznych poczynań naszego rządu, aby podobne warunki mieli Polacy na Białorusi.*

*(Kurier Poranny, nr 87)*

Палякі, грамадзяне Беларусі, выбачайце журналістам з Польшчы, бо не ведаюць што пішуць!

* * *

*„Tradycyjne wartości” preferowane przez Kościół i prawicę to represyjny system prawny, niechęć do edukacji seksualnej, hierarchiczna krótko trzymająca dzieci rodzina, przyzwolenie na umiarkowaną nietolerancję wobec mniejszości seksualnych, narodowych czy politycznych.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 91)*

Але таксама думае і дзядзька Сцяпан з Кляшчэляў, народжаны напрыканцы мінулага стагоддзя. Памятае ён і хваліць царскія парадкі. Усё было такое простае і зразумелае.

* * *

*Грамадзяне Беларусі ў лютым г.г. у сярэднім атрымалі па 33,23 долара зарплаты.*

*(Голас Радзімы, н-р 15)*

## З мінулага тыдня

**Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку** назначаны **Міхал Слямнёў** — старшыня камісіі Вярхоўнага Савета па справах нацыянальнай палітыкі і міжнацыянальных зносін.

**Віцэ-прэм'ер, міністр сельскай гаспадаркі Раман Ягяліньскі** выказаўся за пабудову **помніка біскупу Антанасу Баранаўскасу ў Сейнах.** Падчас прэс-канферэнцыі ў Вільні сказаў ён, што пасля вяртання ў Польшчу будзе сам асабіста пераконваць мясцовы самаўрад да ідэі пабудовы помніка. Гэтая справа ад нейкага часу стала крыніцай канфлікту паміж літоўцамі Сувальшчыны і мясцовымі ўладамі, на што звярнуў увагу польскаму госцю прэзідэнт Літвы **Альгірдас Бразаўскас** у ходзе перамоў.

**Улады чыгунак Польшчы, Нямеччыны, Беларусі і Расеі** падпісалі ў Варшаве пагадненне наконт мадэрнізацыі лініі з Берліна цераз Варшаву і Менск у Маскву. У будучым цягнікі на гэтай трасе будуць ездзіць з хуткасцю 160 км/гадз., а падарожжа з Берліна ў Маскву стане карацейшае на 9 гадзін. Мадэрнізаваны калідор паспрыяе інтэграцыі польскай, беларускай і расейскай чыгунак з агульнаеўрапейскай транспартнай сеткай. Вагоны ў цягніках Берлін—Масква будуць мець аўтаматычную сістэму расстаноўкі колаў у залежнасці ад шырыні рэек.

**X Дні сучаснага мастацтва** праходзіць будуць у Беластоку ў днях 26—28 мая г.г. У рамках гэтага мерапрыемства ў Бюро мастацкіх выставак можна будзе паглядзець экспазіцыю карцін **Лявона Тарасэвіча.**

**„Аграбанк”** — адзін з буйнейшых камерцыйных банкаў — абанкруціўся, у выніку чаго можна чакаць банкруцтва шэрагу фірмаў, якія вялі ў ім фінансавыя аперацыі. Страціла на гэтым таксама **Управа горада Беластока**, якая дэпаніравала ў „Аграбанку” 8,5 млрд. старых злотых. Вядома ўжо, што гораду будзе вернута толькі 80 млн. старых злотых.

**У Беластоку** прайшоў ваяводскі адбор **X Алімпіяды экалагічных ведаў**, у якім прыняло ўдзел 50 вучняў з 24 сярэдніх школ ваяводства. Беласточчыну на агульнапольскай экалагічнай алімпіядзе прадстаўляць будуць: **Роберт Валушко** і **Магдаліна Дзюбан** з Ляснога тэхнікума ў Белавежы і **Кацярына Садоўская** з Беларускага ліцэя з Бельска-Падляшскага.

**Калекцыя Акруговага Музея ў Беластоку** папоўнілася **106 іконамі**, аднятымі мытнікамі ў кантрабандыстаў з краін СНД на кантрольна-прапускных пунктах у паўночна-ўсходнім рэгіёне.

**Беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі** ў сувязі з 50-годдзем заканчэння II сусветнай вайны звярнуўся з заклікам да ўсіх жыхароў Беласточчыны правесці парадкаванне могільнікаў, на якіх пахаваны салдаты і ахвяры I і II сусветных войнаў.

**У Варшаве, Беластоку** і іншых гарадах адбыліся міжнародныя дэманстрацыі з мэтай звярнуць увагу грамадскасці на неабходнасць аховы ўсёй Белавежскай пушчы. Прадстаўнікі экалагічных арганізацый лічаць, што 80% пушчы эксплуатуецца як гаспадарскі лес.

**Кляшчы і выкліканыя імі хваробы** — гэта тэма, якая ад некалькіх гадоў хвалюе навукоўцаў. Гэтым пытанням было прысвечанае сімпозіум, арганізаванае ў Белавежы беластоцкай Медыцынскай акадэміяй. Удзел у сімпозіуме прыняло 250 краёвых і замежных лекараў і біёлагаў. У мінулым годзе зафіксавана 465 захворванняў, выкліканых кляшчамі, а ў 1993 — 603. Захворванні здараліся ў 21 ваяводстве, а 83% усіх захворванняў зарэгістравана ў чатырох ваяводствах: Беластоцкім (111), Сувальскім (49), Ольштынскім (21) і Астралэнцкім (18). Пяць чалавек памерлі ад віруснага запалення галаўнога мозгу.

## Праз тыдзень у „Ніве”

- > Ганна Кандрацюк — пра цудатворцаў з Дубіцкай гміны.
- > Міра Лукша — пра спакойнае жыццё вёскі Сакалда.
- > Пётр Байко — пра жабіную акупацыю белавежскіх дарог.
- > Сцяпан Абух — пра актуальныя палітычныя падзеі ў Зоне.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Здзіўленне прэзідэнта

„Беларусь не мае патрэбы ў дадатковых расейскіх войсках — ні ў пагранічных, ні ў мытных”, — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка падчас прэс-канферэнцыі, якая транслíравалася па радыё і тэлебачанні. Так Лукашэнка пракаменціраваў змешчаную ў пісьме расейскага прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна прапанову накіраваць сто расейскіх спецыялістаў-мытнікаў на граніцу Беларусі з Украінай. Прапанова выклікала здзіўленне і насцярожанасць Лукашэнкі, які лічыць, што беларусы самі здольны кантраляваць гэтую граніцу. „Калі мы ўжо пайшлі на інтэграцыю, то трэба давяраць адзін аднаму”, — сказаў ён.

### Непатрэбны парламент

Ад новага Вярхоўнага Савета, да выбараў якога засталіся лічаныя дні, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не чакае нічога добрага і таму прыняў рашэнне ні за каго не галасаваць і на выбары не хадзіць. „Усё роўна падмануць” — гэтай фразай ён растлумачыў сваё рашэнне мільёнам тэлегледачоў у часе тэлевізійнай прэс-канферэнцыі. Не цяжка прадбачыць, як можа паўплываць такая перадвыбарчая агітацыя кіраўніка дзяржавы на яўку выбаршчыкаў 14 мая да скрыняў для галасавання.

### Чаргаванне кадраў

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка працягвае змяняць шэфаў рэспубліканскіх газет. Нядаўна назначыў ён на пасаду галоўнага рэдактара „Знамя юности” Ігара Гукоўскага — супрацоўніка Упраўлення інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта, назваўшы прытым яго „адзіным чэсным маладым журналістам на Беларусі”. Былы галоўны рэдактар Міхал Кацюшэнка, які знаходзіўся ў адпачынку, аб сваёй адстаўцы даведаўся аглядаючы тэлевізійную прэс-канферэнцыю прэзідэнта. Не менш ён здзівіўся, калі на другі дзень у змешчаным у газетах указе прэзідэнта прачытаў, што вызваляецца ён з пасады галоўнага рэдактара „па асабістаму жаданню ў сувязі з рэарганізацыяй газеты”, хаця такой заявы ён ніколі не даваў. Каменціруючы здарэнне, намеснік галоўнага рэдактара „Знамя юности” Павел Уладзіміраў сказаў: „Я яшчэ раз пераканаўся ў тым, што наша Рэспубліка Беларусь — гэта імперыя ілжы, будаваная нашым прэзідэнтам. Ён яе атрымаў у спадчыну і творча развівае тое, што пакінулі яму Сакалоў, Малафееў і Кебіч. Чаго можна чакаць ад дырэктара саўгаса, які нідзе больш двух гадоў не працаваў? Ён будуе сваю ўладу на ілжы, насіллі, на гвалце, на зневажанню ўсялякіх нормаў канстытуцыі і закона”.

### Дэлегацыя ў Маскву

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзначаліць афіцыйную дэлегацыю, якая будзе прадстаўляць Беларусь на святкаванні 50-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў Маскве. У склад яе ўвойдуць: кіраўнік Адміністрацыі Прэзіэнта Леанід Сініцын, міністр абароны Анатоль Кастэнка і першы намеснік міністра замежных спраў Валеры Цапкала.

### Бедная кінематаграфія

Імя беларускага кінарэжысёра Віктара Турава вядомае далёка за межамі краіны. У ліку 50 сусветна вядомых кінамайстроў ён уключаны ЮНЕСКА ў спіс членаў ганаровага камітэта па святкаванню 100-годдзя сусветнага кінематографа. Але ж прыняць удзел у кінафестывалях, якія зараз ладзіць гэтая міжнародная арганізацыя ў розных краінах свету, Віктару Цімафеевічу, на жаль, пакуль не ўдалося. Не знайшлося проста грошай на паездку за мяжу. Між тым жыхары і госці Менска атрымалі магчымасць сустрэцца з аўтарам любімых стужак „Я родам з дзяцінства”, „Вайна пад дахамі”, „Сыны ідуць у бой” і іншых у Рэспубліканскім доме ветэрана на вечарыне, якую ладзіў Клуб творчай інтэлігенцыі „На ростанях” разам з кінастудыяй „Беларусьфільм”. Віктар Тураў прадставіў на ёй свой новы фільм „Шляхціц Завальня” паводле фантастычных апавяданняў Яна Баршчэўскага.

### Выдавецкія здабыткі

602 назвы кніг і брашур, выпушчаных у лютым і сакавіку г.г. тыражом амаль у 15 млн. экземпляраў, экспанаваліся на чарговай выставе „Беларуская кніга-95”. Сярод паказаных кніг 137 назвы выпушчаны дзяржаўнымі выдавецтвамі, а больш палова гэтых кніг убачылі свет на роднай мове.

### Непрыгодная дапамога

Санітарная служба Пінска патрабавала забраць у насельніцтва прадукт гуманітарнай дапамогі — бутэрбродны маргарын, бо тэрмін яго выкарыстання закончыўся... у 1990 г. На жаль, гэта не першы скандал з валанцёрамі з нямецкага горада-пабраціма Альтэнэ. Усё лепшае з ахвяраванняў сваіх суграмадзян дзелавыя немцы дзеляць паміж тых, хто ў зваротную дарогу забяспечыць іх цыгарэтамі, шампанскім, гарэлкай і іншымі якаснымі таварамі. Гарадскі камітэт Чырвонага крыжа чарговы раз вымушаны частку адзення з пасылак адправіць на звалку, а прадукты забракаваць.

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## „Вавель" Беласточчыны

Калі нехта думае, што гаворка пойдзе пра палац Браніцкіх або іншую будоўлю, той памыляецца. Так менавіта называюць Белавежскую пушчу, параўноўваючы яе значэнне да ролі кракаўскага Вавеля ў жыцці польскага народа. Каштоўнасць гэтага лясного комплексу даўно ўжо дацанілі ў Беларусі, дзе на ўсім пушчанскім абшары быў утвораны нацыянальны парк.

Экологі, якія перспектыўна глядзяць у будучыню, цяперашнюю ахову лічаць недастатковай і б'юць трывогу з-за зніштажэння пушчы ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека. Апошнім часам развязалася спрэчка наконт абсягу і ступені аховы пушчы.

Я сам лічу, што змяненні ў ахове пушчы павінны адбывацца эвалюцыйным шляхам. Цяжка сабе ўявіць, што дзеялася б, каб міністэрскім распараджэннем уся Белавежская пушча ў адзін дзень стала строга ахоўваемай зонай. Што тады сталася б з людзьмі, якія жывуць з лесу — з леснікамі, столярамі, і т.п. З другога боку экалагічныя арганізацыі націскаюць на ўлады, патрабуючы радыкальных змен.

У студзені г.г. у Белавежы адбылася юбілейная (75-годдзе) сесія Дзяржаўнай рады аховы прыроды. Яе ўдзельнікі накіравалі ў Сейм і Сенат РП заклік у справах аховы Белавежскай пушчы і дапамогі „ў вырашэнні слушных патрабаванняў жыхароў пушчанскіх гмін". Нельга стварыць запаведнік насуперак волі жыхароў гэтага абшару. Патрэбны фінансавыя выдаткі на прапаганду ідэі аховы прыроды, на перабудову гаспадарчай інфраструктуры, на экалагічныя інвестыцыі — газіфікацыю і будову ачышчальняў сцёкаў. На маю думку, трэба ўзнавіць чыгуначны транспарт на лініі Гайнаўка — Белавежа, што прывяло б да змяншэння забруджання паветра выхлапнымі газамі.

Ці была б карысць для пушчанскага насельніцтва ў выпадку аб'яўлення ўсёй Белавежскай пушчы нацыянальным запаведнікам? Спачатку частка людзей страціла б працу, але дзелавітыя людзі хутка сумелі б знайсці сабе новы занятак у самім нацыянальным парку і ў абслугоўванні турыстаў. Пушча — вынесеная ў ранг важнага турыстычнага цэнтра ў Польшчы і ў свеце — прыцягнула б больш турыстаў. Гайнаўка магла б стаць арганізатарам турыстычнага руху, а беларусы, якія ў большасці насяляюць пушчанскую тэрыторыю, маглі б шырэй распаўсюджваць сваю культуру, карыстаючыся Музеем помнікаў беларускай культуры ў гэтым горадзе.

Усё вышэйсказанае можа стаць рэальнасцю пры ўмове, што дзяржава выканае патрабаванні міжнароднай стратэгіі „Паркі для жыцця". Прынясе гэта карысць і для прыроды, і для мясцовага насельніцтва (калі не будзе яно надта баяцца змяненняў і магчымых стратаў), і для турыстаў.

Няхай старыя пушчанскія дубы шумяць на ветры і шэптам расказваюць старыя легенды многім наступным пакаленням.

**Славамір Кулік**

## Апошнія з меляшкоўскіх магікан або Жыццё — гэта песня

— Не, не хвалюйся, што пара абсдняя, — пацяшала мяне Тамара Бурачэўская, дырэктар Гарадоцкага дома культуры, калі я з Гарадка накіроўвалася ў Меляшкі. — Ты ж ведаеш, як у нас: раніцай навараць, а пасля вячэра. Будуць мець час!

І сапраўды, часу ў Валянціны Дарашкевіч, шматгадовага кіраўніка меляшкоўскага калектыву і актыўнага грамадскага дзеяча, у гэты дзень было аж замнога. Быў першы дзень вясны, а яна хварэла грыпам. Прыняла мяне, аднак, сардэчна, хаця і з пэўным пярэпалахам: „Ну, хоць бы сказалі — мы б падрыхтаваліся!" Меляшкоўскія жанчыны любяць паставіцца.

Памятаю іхнія ўрачыстасці, прыёмы, куды як родную сястру запрашалі „Ніву". Калі пачыналі спяваць, уносілі на сцэну пахі жывічнага лесу, сабраны з лугоў водар кветак і траў, спеў жаўрукоў. У іх песні было ўсё: і радасць стваральнай працы, і народны гумар, і журба дзяўчыны, якую выдаюць за нялюбага, і туга па лепшым жыцці. Памятаю і іх спектаклі, абрадныя сцэнкі з сялянскага жыцця: вяселле, вячоркі, адведкі ў парадухі і іншыя.

Фактычна ад гэтых сцэнак і пачыналі, бо спачатку іх калектыў быў драматычным калектывам, хаця і спявалі яны здаўна. Першае прадстаўленне далі ў 1974 годзе. Быў гэта „Мікітаў лапаць" Міхася Чарота. Адны бабы ігралі, успамінае Валянціна Дарашкевіч. У Беластоку пыталіся: дзе вашыя мужчыны? А мы самі пераапраналіся. Вазьмі ж ты пацалуйся з мужыком якім, хай сабе і на сцэне, — клопатаў потым не абярэшся!

Пасля захапіліся абраднымі сцэнкамі, ставілі таксама п'есы Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша. Пачалі са сваімі спектаклямі ездзіць у Беласток, у Гайнаўку, у Бельск. Тады ў калектыве даходзіла і да дваццаці асоб.

А пазней вырашылі спяваць. Падставы да гэтага былі. Валя Дарашкевіч, напрыклад, спявала яшчэ ў хоры падставовай школы ў Зубрах, які заснавала там Ларыса Такарэўская, бацюшкава дачка. Калі Валя ў 1961 годзе выйшла замуж у Меляшкі, дык спявалі ўвесь час.

У спявачым калектыве было восем чалавек. Спачатку супрацоўнічалі з колам вясковых гаспадынь, выступалі ў святліцы і ў школе. У Беларускае таварыства найперш запрасілі іх з „Мікітавым лапцем", вяселлем. Але калі пачалі спяваць, зацікаўленне драматычнымі спектаклямі пачало знікаць. З песнямі ездзілі ў суседнія і далейшыя мясцовасці: Гарадок, Валілы, Случанку, Бельск, Гайнаўку, Беласток. Пачалі браць удзел у раённых і цэнтральных аглядах беларускай песні.

Спявалі ўсё, але найбліжэй іх сэрцу быў родны фальклор — песні, якія плылі з глыбіні душы беларускіх сялян, а паўставалі дзякуючы народным талентам, што нарадзіліся на беларускай зямельцы. Як заспяваюць бабы „Павей, ветру" або „Я ў сярэду радзілася", то аж за сэрца возьме.

Шкада, што жанчыны ніколі не вялі хронікі, але здымкаў з выступленняў назбіралася шмат. Ды і ці ж выкінеш з галавы тое, што здымаліся яны ў фільме Тамары Саланевіч „Tryptyk narwiański"?! Спявалі там дажынкавыя песні, а пасля і другі раз, іншыя.

А нават і ў мінулым годзе Уладзімір Колас, кінарэжысёр з Менска, калі быў на „Басовішчы", менавіта ме-

*Працяг на стар. 10*



*Яны яшчэ спяваюць: (злева) Валянціна Дарашкевіч, Ніна Лавіцкая, Галена Дарашкевіч.*

## З'ЕЗДЗІЦЬ У ГРОДНА

*Працяг са стар. 1*

нярэзаных, ды бяда, у пагонах не разбіраюся, таму ўсё не на самага важнага трапляў. Урэшце даскочыў да нейкага маёра (так яго звалі) і прабег за ім ажно да мытнікаў. Але маёр дзесьці змыўся, а мытнікі ўзялі мяне за рукі і выкінулі

**службовым ходам**

(як і трэба чалавеку са службовай візай). На мае слязлівыя маленні мытніца сказала, што трэба было прыйсці дзве гадзіны раней, а мытнік заявіў: „Иди, жалуйся начальнику". Ухапіўся я за гэта і маланкаю папёр на другі паверх „жаловаться" начальніку. Але начальнік ужо пайшоў дадому і „жаловаться было некому". Пастаяў я колькі хвілін ля прывакзальнага мурка, адвёў вачыма цягнік у жаданы Беласток і пайшоў „перакампасціроўваць" білет на начны цягнік, фігурыста лаючы ў думках нябожчыка — Савецкі Саюз і заведзеныя ім вечна жывыя парадкі.

Час да ад'езду правёў я добра. Ахалонуў і паабяцаў сабе, што, як бы там ні было, прасіцца ў гэтых савецкіх чыноўнікаў я не буду. Абяцання, на жаль, не стрымаў.

На гэты раз пры выхадзе з клеткі іншы дзядзька (хаця таксама ў скураной куртцы) сказаў, што ў мяне няма другой „кампасціроўкі" і адправіў назад у касу. Тлумачэнні, што на білеце не адна, а дзве пячаткі, вядома, не памаглі. Сварыцца, аднак, я не паважыўся. Ну, думаю сабе, ідучы знаёмым службовым ходам, дам я хоць касірцы. Але і касірцы „не даў", бо ля патрэбнага мне акенца ўбачыў я страшэнны натоўп. А Божа ж ты мой, зноў не паеду, стала для мяне ясна, як піць даць. Кінуўся я назад, зноў службовым ходам. Цяпер заўпарціўся і выкінуцца проста не даўся. Чалавек у скуранцы ўрэшце пакінуў мяне. Выкінулі мытнікі, бо... не меў я мытнай дэкларацыі. Дэкларацыю мне яны далі, але запоўніць на месцы не дазволілі, бо я там мяшаў ім працаваць. Запоўніў я яе вокамгненна, прысеўшы ў куточку таго ж службовага хода і даваў да тых самых мытнікаў. А злосны я ўжо быў, бы аса. А тут мне гэты савет кажа: „Бэндземы розмавяць па-польску". А я яму: „Нічога не бэндземы, гавары на дзяржаўнай мове, пакуль Лукашэнка яшчэ гэтага не скасаваў!" Той вытрашчыў вочы і глядзіць на мяне. Колькі працус, мусіць такога не бачыў. Ад здзіўлення аж ніжняя сківіца адвісла, але куды было яму дзявацца, мык-мык і хіба з пяць слоў па-беларуску сказаў. Ужо ў чакальні, з патрэбнымі пячаткамі, пачаў дакараць сябе, што ніяк не магу вырасці — патрэбна было мне, каб гэты савет па-беларуску гаварыў. А пайшоў ён! Дарэчы, мытныя дэкларацыі тут жа яны і выкідаюць.

**Цягнік назад**

зусім не нагадваў таго з папярэдняга дня. Брудны, смярдзючы, кішэў гандлёвым народам. Па дарозе раскручваліся цэлыя сцены, спірт хаваўся ў такія месцы, што ніколі б не падумаў. Калі ў Кузніцы мытнікі заставілі ім цэлы перон, думаў я, што гандлёвы народ пацярпеў страшнае паражэнне. Але, як толькі мытнікі прапалі з вачэй, усё заварушылася, а спірту і цыгарэт паявілася столькі, быццам ніхто нічога не забраў. Гандаль пачаўся адразу ў цягніку, яшчэ на станцыі. Адны куплялі, другія, вядома ж, прадавалі, штосьці мянялі ды так хутка пералічвалі валюты, што не адзін матэматык збіўся б. Відаць, некаторыя і на базар не едуць, а проста спецыялізуюцца ў кантрабандзе цераз мяжу.

Мая суседка, якая сядзела годна, бы царыца, пачала даставаць спірт і цыгарэты з такіх месцаў, што я ад сораму адварочваў вочы. А ёй нічога, прывыкла. Не мелі шчасця тры маладыя палякі, якім не досыць, што мытнікі забралі спірт, то яшчэ потым ахова чыгункі забрала куплены, ды іх самых вывела з цягніка ў Саколцы. Ну што ж, цана рызыкі. Астатнія з нашага вагона даехалі ў Беласток шчасліва.

**Мікола Ваўранюк**

## Маладыя акцёры ў Гайнаўцы

Цэнтральны агляд тэатральных калектываў пачатковых школ праводзіўся ў апошні дзень сакавіка ў Гайнаўскім доме культуры. На дзесятую гадзіну з суседніх мясцовасцей даехалі дзеткі з апекунамі. Прыйшла публіка — заўзятары з гайнаўскіх школ, але магло б іх быць больш, бо месцаў хапала. Даехалі толькі чатыры калектывы.

Усіх прысутных прывітаў дырэктар ГДК Мікалай Бушко. Удзельнікам і гледачам прадставіў ён камісію ў асобах: старшыня — Тамара Русачык — візітатар кураторыі, намеснік старшыні ГП БГКТ, члены: Яніна Чэрнякевіч — рэдактар беларускай праграмы ў Беластоцкім радыё, былая журналістка „Нівы" і колішняя рэдактар „Зоркі", Анна Баран — інструктар з Гайнаўскага дома культуры. Затым голас узяў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі— галоўны арганізатар гэтага мерапрыемства, які прывітаў удзельнікаў, настаўнікаў-аніматараў культурнага беларускага руху ў сваім асяроддзі, і падзякаваў дырэктару ГДК за гасціннасць.

Першым на сцэну выйшаў тэатральны калектыў са школы ў Дубінах. Настаўніца Надзея Гаган падрыхтавала са сваімі юнымі акцёрамі „Сонечны цырк". На „арэну" пад музыку „Балеро" Марыса Равеля выбягалі дзеткі ў шыкоўным адзенні. Былі клоўны, а як жа ж, і чараўдзей, і, абавязкова, дрэсіроўшчык дзікіх „жывёл". Змаглі дэбютанцкую трэму і на выдатна выканалі сваю праграму.

Іаланта Грыгарук падрыхтавала калектыў з **Новага Беразова** з тэкстам Р. Аўраменкі „Светлафор". Гэты гурт меў дарожныя знакі, быў з імі і паліцыянт.

Наступны калектыў, са **школы н-р 3 з Гайнаўкі** выступіў з вельмі ўдала скарочанай п'есай А. Гаруна „Хлопчык у лесе". У рамках бібліятэчнай працы калектыў падрыхтавала вядомая нам з папярэдняга агляду Валянціна Дзмітрук. Цудоўныя касцюмы — усе дзяўчаткі былі за кветкі, выразна прадстаўлены тэкст, міміка, тэатральны рух ды прыгожае сцэнічнае афармленне — усё гэта захапляла.

Анна Гаўрылюк са школы ў **Махнатым** падрыхтавала са сваім калектывам казку „Залаты птах". Цікавая дэкарацыя, вобразнасць выканання — проста малайчыны! У скарочаным тэксце — галоўная думка: нельга нічога дрэнна нікому і нічому рабіць...

Шкада, што прыехала так мала калектываў!

Вось месцы ў спаборніцтве:

**I. Пачатковая школа н-р 3 ў Гайнаўцы.**

**II. Пачатковая школа ў Махнатым.**

**III. Пачатковая школа ў Дубінах.**

**Вылучэнне для Новага Беразова.**

Узнагароды ўдзельнікам прызналі Гарадская ўправа ў Гайнаўцы ды Галоўнае праўленне БГКТ. Аддзельную ўзнагароду даў усім удзельнікам Гайнаўскі дом культуры, а найбольш вылучыў школу ў Дубінах.

Я на заканчэнне пытаю: Дзе настаўнікі з Бельшчыны? Чакаем, чым яны пахваляцца праз год!

**Міхал Голуб**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# ЗА НАВУКАЙ У ГОРАД

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

На наступны дзень мы самі паехалі цягнікам у Бельск. Школа знаходзілася недалёка вакзала. На калідоры было ціха, вяліся ўрокі. Мы пайшлі ў кабінет дырэктара, дзе сустрэў нас мужчына ў вайсковай форме, у ботах з халявамі.

— Мы пришли, — сказаў па-руску Антон, — чтобы вы приняли нас в школу.

— А вы какой класс окончили? — запытаў ён.

— Шестой.

— Тогда принимаю вас, — сказаў дырэктар. — Идите в шестой класс, — назваў ён нумар залы, — и скажите преподавальтельнице, что я вас принял в этот класс.

Увайшлі мы на ўрок гісторыі. Маладая настаўніца запытала нас:

— Чего вы хотите?

— Господин директор принял нас в шестой класс и сказал нам прийти сюда, — адказаў Ляшчынскі.

— Надо говорить товарищ директор, а не господин. У нас господ нет, — сказала настаўніца і ўсе вучні зарагаталі. — Пожалуйста, садитесь там на свободную парту и будьте внимательны.

І так мы сталі вучнямі шостага класа Беларускай няпоўнай сярэдняй школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Хаця школа называлася беларускай, доўгі час вучылі нас на рускай мове. Настаўнікамі ў школе былі пераважна мясцовыя педагогі з былых польскіх сярэдніх школ, якія ведалі рускую мову. Сярод іх былі палякі, напрыклад, настаўнік геаграфіі, але большасць складалі польскія беларусы. Спачатку з Беларусі прысылалі толькі настаўнікаў гісторыі (якія часта змяняліся) і беларускай мовы. Мясцовыя настаўнікі вельмі паволі пераходзілі на беларускую мову, бо самі яе вывучалі. Мы доўгі час не мелі падручнікаў і ўсе ўрокі запісвалі ў сшыткі, але пад канец навучальнага года ўсе вучні атрымалі падручнікі і на рускай, і на беларускай мовах. Прысылалі іх нам часта школы з усходняй Беларусі. Узровень навучання ў беларускай школе быў намнога вышэйшы, чым у польскай. Тут ужо ад пятага класа была нямецкая мова, а ў даваеннай Польшчы толькі ў гімназіі пачыналі вучыць замежнай мове. Нам у шостым класе трэба было прайсці курс нямецкай мовы з пятага класа і закончыць шосты. А настаўнік быў жорсткі і застаўляў вучняў не толькі перакладваць з нямецкай на рускую, але і гаварыць па-нямецку. Пазней мне гэта спатрэбілася, калі мяне вывезлі на работы ў Нямеччыну. У шостым класе мы пачалі вучыцца алгебры, планіметрыі, гісторыі Заходняй Еўропы, чаго ў польскім шостым класе не было.

Настаўнікі былі вельмі прыемныя. Большасць з іх не ведала беларускай мовы і ў нашай школе праводзіліся курсы для іх.

Мы хутка авалодалі рускую, а ў сёмым класе і беларускую мовы. У савецкай школе быў звычай, што ў канцы кожнага класа трэба было здаваць экзамены з большасці прадметаў. На кожным экзамене трэба было цягнуць картачкі з пытаннямі і адказваць перад камісіяй.

Вучні ў нашым класе былі ў большасці мясцовыя — з Бельска і навакольных вёсак. Толькі двое прыехалі з Савецкай Беларусі.

Вясной мы даведаліся, што адну з нашых сяброўак з шостага класа вывезлі дзесьці ў Казахстан, бо яе бацька быў перад вайной ляснічым і праўдападобна раней быў салдатам у Балаховіча. Вельмі прыгожая і мілая была гэта дзяўчына.

У Бельску была яшчэ руская сярэдняя школа-дзесяцігодка.

Мы кожны дзень даязджалі з Чаромхі ў Бельск-Падляшскі цягнікам. Цягнікі якраз падыходзілі да часу нашых заняткаў і не трэба было нам здымаць кватэру. Спачатку мы ездзілі толькі з Антонам, пасля дайшлі да нас яшчэ тры сябры. Так што ўпяцёх кожны дзень мы пяшком ішлі на чыгунку (3 км) у Чаромху, ехалі цягніком у Бельск-Падляшскі, а вечарам вярталіся дамоў. І так мы скончылі і шосты, і сёмы клас НБСШ н-р 3. Я меў намер пайсці ў восьмы клас рускай сярэдняй школы ў Бельску-Падляшскім, але не паспеў, бо 22 чэрвеня 1941 г. пачалася новая вайна.

Я вельмі цёпла ўспамінаю няпоўныя два гады, праведзеныя ў сценах першай маёй беларускай школы. Пасля вайны я спатыкаў толькі трох чаромхаўскіх сяброў з шостага каласа. Закончылі яны Беларускую гімназію, а затым ліцэй імя Т. Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім. На жаль, не спаткаў я ніколі ніводнай сяброўкі з нашага класа. Не ведаю, як яны перажылі акупацыю. Здаецца, дзве вучаніцы ў нашым класе былі яўрэйкамі і тыя маглі загінуць.

**Дзмітрый Шатыловіч**




*— Я вельмі цёпла ўспамінаю няпоўныя два гады праведзеныя ў сценах першай маёй беларускай школы, — напісаў аўтар і даслаў здымак сёмага класа Беларускай няпоўнай сярэдняй школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Ён сам стаіць першы з левага боку. З вучнямі сфатаграфавалася класная выхавацелька, якая выкладала рускую мову. Здымак зроблены ў 1941 годзе.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХАДЭЦЫЯ

Дакладна невядома калі ўзнік міф, які акрэсліў усіх католікаў, пражываючых на беларускай зямлі, палякамі, а праваслаўных — рускімі. Напэўна не стварылі яго беларусы. Гістарычныя даследаванні паказваюць адназначна, што ў другой палове XIX стагоддзя адраджэнне беларускасці закранула ў такой самой ступені каталіцкае і праваслаўнае насельніцтва Беларусі. Сярод адраджальнікаў часта сустракаем людзей, якіх бацькі лічылі сябе палякамі і на такіх жа выхоўвалі сваіх дзяцей. Янка Купала — католік — свае першыя вершы напісаў на польскай мове, Якуб Колас — праваслаўны — на рускай. Іх уласныя роздумы і назіранне акружаючага свету хутка прывялі да беларускасці. Чалавек, які меў (і мае) пачуццё годнасці, не можа скрывацца за чужой маскай.

Каталіцкая царква, якая паводле ўяўленняў некаторых польскіх інтэлектуалаў, была ў Беларусі нацыянальным маналітам, у сапраўднасці пры канцы XIX стагоддзя апынулася на дарозе культурных пераўтварэнняў, якія ўводзілі мову народа ў сцены барочных святыняў. Толькі ў час II Рэчы Паспалітай, калі наступіла спалучэнне рэлігійных і палітычных інтарэсаў пануючага народа, гэтыя дэмакратычныя працэсы былі спынены.

Першая беларуская каталіцкая арганізацыя — Хрысціянская дэмакратычная злучнасць — узнікла ў Петраградзе ў маі 1917 г. Стварылі яе каталіцкія святары Фабіян Абрантовіч і Люцыян Хвецька. ХДЗ пачала выдаваць на беларускай мове свой часопіс „Крыніца", прапагандуючы перш за ўсё грамадска-эканамічныя праблемы, якія ў той час былі вельмі важнымі для беларускага грамадства, прыгнечанага цяжарам сусветнай вайны, якая вялася між іншым і на тэрыторыі Беларусі.

Пасля бальшавіцкай рэвалюцыі цэнтр беларускай хрысціянска-дэмакратычнай думкі перамясціўся ў Менск. ХДЗ прымала ўдзел у беларускіх кангрэсах у ліпені і снежні 1917 г., мела сваіх прадстаўнікоў у Беларускай радзе, якая акрэслівала тадышнія прынцыпы беларускай палітыкі.

Пад уплывам маладых дзеячоў, выпускнікоў Пецярбургскай духоўнай акадэміі і Віленскай духоўнай семінарыі ў верасні 1918 г. ХДЗ перайменавалася на Хрысціянскую дэмакратычную злучнасць беларусаў і ўвяла ў сваю праграму, як асноўную мэту дзейнасці партыі, пабудову незалежнай беларускай дзяржавы.

Пасля падпісання рыжскага дагавору паміж палякамі і расейцамі асяродкам беларускай хадэцыі стала Вільня. ХДЗБ, хаця і прадстаўляла каталіцкае веравызнанне, уладамі II Рэчы Паспалітай трактавалася як усе іншыя беларускія арганізацыі. Святароў, якія вялі багаслужбы на беларускай мове, улады пасылалі весці душпастырскую місію ў цэнтральныя раёны Польшчы. У парафіях, у якіх большасць вернікаў складалі беларусы, вялася пастаянная барацьба за мову ў касцёле. Але змаганне за беларусізацыю касцельнага жыцця было магчымае толькі на пачатку дваццатых гадоў, калі Віленскай епархіяй кіраваў літовец Юры Матулевіч. У 1925 г. віленскім архіепіскапам стаў паляк Рамуальд Ялбжыкоўскі, прыхільнік эндэцкай канцэпцыі ўнутранага парадку ў Польшчы. Новы архіепіскап забараніў падпарадкаваным сабе святарам кантактавацца з ХДЗБ, гаварыць казанні на беларускай мове, чытаць беларускую прэсу, а пробашчаў беларускай нацыянальнасці памяняў на палякаў.

У кастрычніку 1926 г. ХДЗБ прыняло назву Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. 6 лістапада 1927 г. адбыўся I З'езд БХД, які вырашыў, што арганізацыя павінна большую ўвагу адвесці палітычным праблемам беларусаў у Польшчы, стаць агульнанацыянальнай партыяй, яднаць усіх беларусаў, нягледзячы на веравызнанне, вакол ідэі пабудовы ўласнай незалежнай дзяржавы. У грамадскіх справах праграма БХД нагадвала прапановы заходнееўрапейскіх сацыял-дэмакратаў.

У 1928 г. адбыўся II З'езд партыі, які пашырыў нацыянальныя патрабаванні ў адносінах да ўлад Польшчы і Каталіцкай царквы. БХД пратэставала супраць паланізацыі беларусаў-католікаў, дамагалася роднай мовы ў каталіцкіх і праваслаўных духоўных семінарыях, а таксама ў штодзённым жыцці рэлігійных супольнасцей. У адказ архіепіскап Ялбжыкоўскі забараніў вернікам-католікам чытаць „Беларускую Крыніцу" (орган БХД).

БХД цесна супрацоўнічала з Беларускім сялянскім саюзам, якім кіравалі Фабіян Ярэміч і Сымон Рагуля. Большасць прыхільнікаў БСС выводзілася з праваслаўнага асяроддзя. Гэтыя дзве партыі стварылі нават у Вільні Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, заснавалі ўласную друкарню імя Францішка Скарыны. Падчас выбараў 1930 г. БХД, БСС і Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне стварылі супольны выбарчы блок, які аднак не атрымаў належнай падтрымкі з боку грамадства. Дарэчы, такой падтрымкі не мела ніводная легальная беларуская партыя ў II Рэчы Паспалітай, у выніку чаго гэтая двухмільённая нацыянальнасць не мела ў 30-х гадах ніводнага свайго прадстаўніка ў Сейме.

Абараняць нацыянальныя інтарэсы магла яшчэ прэса. „Беларуская Крыніца" была адным з нешматлікіх часопісаў, які бескампрамісна прапагандаваў ідэю незалежнасці Беларусі ў яе этнічных межах. „Крыніца" крытыкавала праваслаўных святароў за паланізацыю вернікаў, лідэраў „Цэнтрсаюза" (Антона Луцкевіча і Радаслава Астроўскага) за здраду нацыянальных інтарэсаў і паланафільства. КПЗБ успрымалася хадэкамі як чужая, агентурная арганізацыя, якая дзейнічала з мэтай падпарадкавання цэлай Беларусі суседняй дзяржаве і стварэння на яе тэрыторыі аднае акупацыйнае сістэмы.

У польскай прэсе БХД называлі „бальшавіцкай" арганізацыяй, у камуністычнай — „фашыстоўскай".

У 1935 г. партыя яшчэ раз памяняла назву на Беларускае народнае аб'яднанне. БНА рашуча выказалася супраць фашыстоўскай і камуністычнай ідэалогіі, за роўнасць усіх народаў, пражываючых на тэрыторыі Белай Русі. БНА ў сваёй праграме абмежавала рэлігійныя патрабаванні, якім раней адводзіла шмат увагі і выказвалася за свабоду сумлення і веравызнання і супраць выкарыстоўвання рэлігіі для палітычных мэтаў. Партыя такім чынам прыстасавала сваю праграму да існуючых на тэрыторыі Заходняй Беларусі псіхалагічных і палітычных умоў.

У 1937—1938 гадах палітычныя рэпрэсіі і арышты дзеячаў абмежавалі дзейнасць партыі амаль да нуля. У беларускім асяроддзі не існавала тады ўжо, апрача Злучнасці праваслаўных палякаў, ніводная арганізацыя. Згодна з жаданнем кіраўніцтва суседняй дзяржавы перастала існаваць нават падпольная КПЗБ.

**Яўген Мірановіч**

# Новая ўсеагульная энцыклапедыя

Варта паінфармаваць чытачоў „Нівы", што пачала выходзіць, падрыхтаваная прэстыжным Дзяржаўным навуковым выдавецтвам (PWN, Warszawa), **Nowa Encyklopedia Powszechna** — шасцітомнае выданне, якое адлюстроўвае веды з усіх галін навукі, мастацтва, літаратуры, рэлігіі, палітыкі, грамадскага жыцця. На днях з'явіўся ў кнігарнях том I, у якім апрацаваны артыкулы на першыя тры лацінскія літары A, B, C.

Што кідаецца ў вочы, калі глядзець на літаратуру, то даведзены да максімуму адбор матэрыялу. Многіх няма і з польскай пісьменнасці, і еўрапейскай. І тым болей цешыць факт, што ўжо ў адным гэтым першым томе знайшлося месца аж для стольніх беларускіх пісьменнікаў: *Адамовіч Алесь, Арсеннева Наталля, Багдановіч Максім, Барадулін Рыгор, Бажко Алесь, Бічэль Данута, Броўка Пятрусь, Брыль Янка, Быкаў Васіль, Чарот Міхась, Чорны Кузьма.* Ёсць і двух „белавежцаў" — *Барскі Алесь* і *Чыквін Ян*, а таксама *Белаказовіч Васіль* (як вучоны-славіст).

Не без сатысфакцыі, відаць, трэба адзначыць, што іменна ва ўсеагульнай Энцыклапецдыі маем звесткі і пра такія факты, як: **Беларусы ў Польшчы, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" і Беларускае грамадска-культурнае таварыства.**

Том II выйдзе ў верасні гэтага года.

**яч**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 424

Рэдактар: Сакрат Яновіч

*Ян Чыквін*

## Tessera hospitalis

*Ніне Мацяш*

Чым я магу дапамагчы табе, мой дружа,
У хвіліне той, якую адчуваеш, што прыйшла і што апошняй...
І няма ніякага ні кола, ні саломіны ад блізкіх,
Ні ад чужых — ста лекараў, філосафаў і багасловаў,
Ні ад іншага чаго жывога, ні прадметаў, што слухмяна
Зыркаюць у тую страшную шчыліну быту, у якую загадаў перш ім
Глядзець, сам будучы яшчэ няпэўным парасткам квітнеючага жыцця,
І з палачкай зялёнай у руцэ ўсё бег далінай марафонскай без затрымкі.
Так безразважна! — й сёння ты, шчэ радасцяю пераможцы
Акрылены, не бачыш, яшчэ не разумееш як бы, што вось прыбег...

Малодшы духам, я перадам таму, хто следам і за мною
Таксама без аглядкі бегчы будзе, зноў малодшаму, за нас абодвух,
Жарынку памяці, не болей, аб тваёй прысутнасці пад сонцам ў свеце чалавечым —
Добрым, сонечным заўжды і бескарысным маладым мужчыне.

Так буду паўтараць, бо ты і быў такім, спагадліва-разумным,
У сваіх мыслях пра сябе — хоць у паводзінах з людзьмі
І рэзкі быў, злапамятны і крыўдзіў шмат каго,
Слабейшых ад сябе найперш, сабе прыпісваючы ў злосці слабасць.

Ды Бог табе суддзя — і мне! Такое нашае быццё!
Яно нас ловіць ў сець сваіх нікчэмных рэчаў
І, як рыбіну папаласкаўшы хвілю у жывой вадзе-жывіцы,
Без злосці выкідае з утульнай тоні на сухі, зрудзелы бераг.

Прабач... У параўнанні гэтакім спадручна-нескладаным
Шукаю нейкай дапамогі я свайму нялётнаму ўяўленню...
Перад абліччам вечарэючым тваім, перад маўклівым звонам вечнаты,
Перад тым болем, што баліць усё прасцей, я дзякую, што — як табою я —
быў мною ты.

## Свяшчэнны дождж

Даждж не хочацца шумна ісці,
Таму па-ціху тупоча, сівенькі.
Вясны панаднай гонкія касцы
Ваду, што скосяць, то збяруць ў сявенькі.

А ў маім доме гасне хатні агонь —
Ад розуму халоднага ці, можа, ад слязы?
Хоць ты падай, вясна свяшчэнная, мне сваю далонь
І таямніцу выяві жыцця — каб жыць.

Святлее дождж, какетліва ўглядаецца ў ваду,
Ў якой мігціць яго крыштальная прыгожасць,
І звонка харашынь сваю ён множыць,
Загледжана-заслуханы ў сімфонію сваю.

У гэтай музыцы, дакорнай і шчымлівай,
Ёсць цень адной заплаканай жанчыны.
Яна ка мне прыходзіць напамінам неспакойным,
Вяртаецца й бруіць, па той бок шыбінаў вакенных.

## Прызнанне

Не камень я, не векавечны —
Таму згартаю святло да святла,
Таму збіраю цяпло да цяпла

І свет трымаю ў абдымку хлапечым.
Насустрач людзям душа ўсё імкне
І, можа, гэта і ёсць жыццятворнасць ва мне?

Маўклівы сэрца чаўнок — ён трапеча
І тчэ кілім з невагомага жалю
З выявай болю на дрогкіх скрыжалях.

Калісьці песняй для сэрца была агнеча
Цвітучай любасці ў садзе пачуццяў.
Цяпер адно сны тускноты мярэжкай ткуцца.

Наводдаль спеўна змяркаецца вечнасць —
А я зграбаю аскепкі цяпла да цяпла,
А я складаю агніцы святла да святла.

## Вяселле

Нейкае свята было. У будзённы дзень
насупраць вады гарэла шчаслівая хата —
моладзь гуляла ў жыццё і агонь падкладала.

З нічога ўспыхнуў пажар. Мілосным жарам
вусны ўспалалі і ад крыві запалыхала ўсё цела.

Полымем яркім шугалі белі кашуль,
ногі прынадна свяцілі ў гарачых спадніцах.
Неба мала было для жывога агню
і званоў было мала на гулкай званіцы.

Ластаўчын лёт, зігзагам, між надваконнем і хмарай
голкай у сэрца кальнуў — невядома з чаго і адкуль:
гэтак жа зноў няма ў гняздзе птушанятак.

Ціхай манашкаю крэсліць пустую прастору пташка старая.

## Нейк сталася

Нейк сталася, што я паіў каня.
Ажурнай цеплынёй ляжала сонейка на грыве.
Ціш стрыглі вушы палахліва,
Хоць яблыкі вачэй былі ў агнях.

Мы з ім жылі не як браты,
Таму, пакуль я даставаў вады
І налівау з чарпальнай кадзі
Ў ягонае напойнае вядро,

Атласам губ мяне ён гладзіў
І яблыкаў сваіх наводзіў мікраскоп
На кучму валасоў і на загар плячэй
Ды асабліва ў гузікі маіх вачэй.

Праз іх, відаць, там бліскалі й яму агні —
І жорны мозгу разлічалі свята й будні,
Што я налью яму вады з ягонай студні
Ў ягоную пасудзіну, ў ягонай цішыні...

Як на вадзе мінае ўсё, як на агнях!
Няма даўно высокай постаці каня,
Той студні ўжо даўно няма
Ні сонейка таго. Вядома — і мяне няма.

## Два лісты

*памяці Уладзіміра Калесніка*

Я ўвайшоў
каб спытаць пра сваё лісце
у індыйскіх мудрацоў

На старатамільскай мове
мінулае і прышласць прышэльца вырыты
дробненькімі значкамі
для маласпрактыкаванага вока амаль нераспазнавальнымі

Для кожнага маюцца два лісты
у 3665 тамах па 365 лісцяў у кожным

На адным — аб перажытых ужо жыццях шматразова
на другім — што ніхто не паміpae назаўсёды

На планеце Зямля
паложанай на малазначным краю Млечнай дарогі
аддаленай ад яе цэнтра на нейкіх 30 тысяч светлавых гадоў

Уладары часу
прыбыўшы з вельмі далёка
на тахіёнавых машынах
перададуць нам аб'ектыўны вобраз нашай рэчаіснасці

не, не паверым —

## Як калісь

Неверагодна. Чорная музыка ўладарыць Варшавай,
Усе вуліцы робіць непраезнымі аднолькава.
Хто б не з'явіўся — ідзе крокам Раскольнікава,
Усе жанчыны — найпрыгажэйшымі вабнымі полькамі.

Блізкае ад мяне адплывае і стаецца неймаверна далёкім.
Хоць вечар неонамі пісьмаў к сабе прыйсці запрашае,
На скрыжаванні стаю, як калісь, і адчайна цалую твой локан
І бачу зноў тое, як размінаюцца нашых двух жыццяў аблокі.

Як і тады, пра сябе я й цяпер ведаць нічога не ведаю,
Чую адно, што нельга чагосьці ўсё мне. І гэтае нельга ўсё бліжай —
Як нельга пайсці адначасна у шчаснасць Новага свету,
Калі ўжо пад чорную музыку йдзеш вуліцай Святога крыжа.



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Мяне завуць Бася Ляўчук. Мне 13 гадоў. Я жыву ў Крывой, а вучуся ў шостым класе Пачатковай школы ў Орлі. Я вельмі люблю беларускую мову. На ўроку мы складалі вершы пра вясну. Настаўніца паставіла мне за гэты верш шасцёрку. Я пасылаю Табе, „Зорка", сваё вершы.

**Вясна**

Чаму кветкі цвітуць?
Чаму птушкі спяваюць?
Чаму зелянее трава?
Не ведаеш?
Гэта вясна!
Вясной і кветкі цвітуць,
Вясной і птушкі пяюць,
Вясной зелянее трава.
І гэта знак, што ўжо вясна.

**Бася Ляўчук**

**Ад рэдакцыі:** Каханая Бася! Твой верш вельмі прыгожы, так як вясна, пра якую пішаш. Іншыя твае вершы надрукуем у чарговых нумарах „Зоркі". А ты станеш удзельніцай штомесячнага конкурсу „Зоркі". Усім, думаю, будзе вельмі прыемна, калі ты дашлеш нам свой здымак і далей будзеш пісаць у „Зорку".

**Зорка**



→ **"Вясна".** Малюнак другакласніцы Олі Годун са школы ў Храбалах.

# Сястрычкі-разумнічкі і малы Дарафей

**Эва, Маруся і Дарафей Багроўскія** жывуць у вёсцы Рутка.

Эвуні чатыры з паловай годзікаў. Гэтая маленькая дзяўчынка ўжо ўмее чытаць па-беларуску. Яе тата купіў буквар і навучыў усіх літар. Эва прачытала мне ажно цэлую старонку з літаркай „К". Малая разумнічка не толькі чытае, але і піша. Друкаванымі літарамі напісала сваё імя і прозвішча. А ўсім дзецям, якія чытаюць „Зорку" дзяўчынка прачытала на памяць такі верш:

*Ходыт бусёл по болоты,*
*Клічэ жабу на роботу,*
*Жаба кажэ — не хочу!*
*Бусёл кажэ — заплачу!*

Прыгожы, праўда, верш? Да таго на палескай гаворцы. Навучыла яго Эву бабуля Вера, што жыве па-суседску. Сястрычка Эвы, Маруся, таксама разумнічка. Дзяўчынка хадзіла ўжо год у прадшколле, што ў Дубічах-Царкоўных. Цяпер хоча здаць экзамен і паступіць у першы клас.

Падумаеце, які экзамен?

Марусі няма яшчэ шасці гадоў. Але яна ўмее пісаць і чытаць. У школе, дзе была ў шасцігодках, вучылася польскай і англійскай мовам. Самым цікавым заняткам для яе гэта лічэнне, дадаванне і адніманне. Можа вырасце з дзяўчынкі славутая матэматычка?

— Ведаеце, што ў прадшколі ўсе дзеці гавораць па-польску?, — расказвала бацькам Маруся, калі вярнулася першы дзень са школы. У хаце ўсе дзеці гавораць на палескім дыялекце. Паслухайце, тады, які вершык вам сказала наша новая знаёмая.

*Жыў дзед і баба,*
*Мелі хлібэць і папці,*
*Пошлі рызаті паршучка,*
*— Сказаті вам од кунця?*

Абедзве сястрычкі памагаюць бацькам. Перш за ўсё калышуць свайго малюсенькага браціка. Пяцімесячны Дарафей толькі пачынае гугукаць. А сястрычкі да вясёлага хлопчыка таксама шчабечуць як ластаўкі. Калі падрастуць і падвучацца, дзяўчаты будуць пісаць у „Зорку". Ужо цяпер любяць слухаць усе казкі і вершыкі, якія чытаюць ім мама, бабуля і тата. Бабка Вера толькі і зносіць сшыткі, якія яшчэ ляжаць на гарышчы. Усе вольныя карткі дзяўчаткі запісваюць вокамгненна.

**Зорка**



*Эва, Дарафей і Маруся Багроўскія з Руткі.* **Фота Г. Кандрацюк**



З гісторыі Беларусі

## Ці быў старажытнарускі народ?

Такога народа не было. Яго прыдумалі расейскія гісторыкі. Да тэрмінаў „древнерусский народ", „единый русский народ" яны звярталіся кожнага разу, калі ўзнікала патрэба апраўдаць імперскую палітыку Масквы, што імкнулася ўсякімі шляхамі давесці сваё нібыта гістарычнае права на Беларусь і Украіну.

У мінулыя стагоддзі, апраўдваючы экспансію і панаванне над беларусамі і ўкраінцамі, яны заўзята прапагандавалі канцэпцыю існавання „трех племен единорусского народа — великорусов, малоросов и белорусов".

У савецкія часы, калі беларускі і ўкраінскі народы юрыдычна набылі сваю дзяржаўнасць, гэтая канцэпцыя была прыстасаваная да новых абставінаў. Яна трансфармавалася ў тэзіс пра існаванне „древнерусской народности как колыбели трех братских народов", якія неўзабаве мусілі, паводле камуністычнай дактрыны, зліцца ў „новую общность", што па сутнасці азначала асіміляцыю.

А што ж было ўзапраўды?

Калісьці, у VII—VI стагоддзях да Нараджэння Хрыстова землі Усходняй Еўропы былі заселеныя рознымі народамі: на тэрыторыі сучаснай Беларусі жылі балты, Украіны — скіфа-сарматы, Расеі (ад Каспія па Волзе да Карэліі) — вугра-фіны.

У VI—VII стагоддзях па Нараджэнні Хрыстовым на гэтыя абшары са сваёй прарадзімы ў Вісла-Одэрскім міжрэччы і заходнім Беларускім Палессі прыйшлі славяне. Вынікам іх змешвання з мясцовым насельніцтвам сталася зараджэнне новых народаў — беларусаў, украінцаў, расейцаў. У залежнасці ад таго, з кім зліваліся славяне, фармаваліся і новыя мовы, традыцыі, менталітэт.

На этнічнай тэрыторыі Беларусі рассяліліся некалькі славянскіх плямёнаў: крывічы (Віцебшчына, Смаленшчына, Віленшчына, часткова Невельшчына і Гарадзеншчына), дрыгавічы (цэнтральная Беларусь і паўночнае Палессе), радзімічы (Магілеўшчына, Гомельшчына, заходняя Браншчына), валыняне (Берасцейшчына). Аб'яднаўшыся, крывічы і дрыгавічы ў X стагоддзі стварылі магутную дзяржаву — Полацкае княства, якое стала ядром беларускай нацыі.

Усведамленне старажытнымі беларусамі сваёй адметнасці фіксуецца летапісамі аж з X стагоддзя ў вядомай аповесці пра Рагнеду. А такая характэрная асаблівасць беларускай мовы, як „дзеканне", адзначаецца яшчэ на пачатку X стагоддзя арабскім пісьменнікам Аль-Масуд'і (Абу Хасан Ібн-Хусейн) у слове „эль людзіна", якое было саманазвай нашых прашчураў.

Першы вядомы помнік беларускага пісьменства налічвае ўжо болей за 1000 гадоў. Гэта надпіс „Гороушна" на гліняной пасудзіне, знойдзенай археолагамі пад Смаленскам. Таксама X стагоддзем датуецца надпіс на пячатцы полацкага князя Ізяслава, сына Рагнеды. Гэта найстаражытнейшыя помнікі пісьменства не толькі на Беларусі, але на ўсім абшары Усходняй Еўропы.

Тое, што некаторымі называецца „Древнерусское государство", строга кажучы, ніколі не існавала. Шматлікія спробы князя Уладзіміра ў канцы X стагоддзя зброяй аб'яднаць усе ўсходнеславянскія землі ўрэшце скончыліся няўдачай. Полацкая зямля ў зацятай барацьбе адстаяла сваю незалежнасць.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Пан і казачнік

Адзін багаты пан вельмі любіў слухаць казкі. Бывала, хто яму што не нахлусіць — ён з усім згаджаецца. Захацелася таму пану паслухаць хоць адну казку, якой бы ён не паверыў. Абвясціў ён усюды: „Хто раскажа мне такую казку, каб я сказаў: „Ілжэш", таму дам талерку золата".

Знайшоўся адзін такі казачнік. Звалі яго Янка. Прыйшоў ён да пана.

— Стаў, пане, талерку золата, буду казку казаць!

Паставіў пан на падлозе талерку золата, а сам рассеўся ў крэсле і закурыў люльку з доўгім цыбуком.

— Ну, кажы. Толькі глядзі, каб замест золата розаг не дастаў...

Прысеў Янка на кукішках перад талеркай і пачаў казаць:

— Чаго, панок, на свеце не бывае. Вось якая аднойчы са мною прыгода трапілася. Было гэта тады, калі мой бацька яшчэ і на свет не нарадзіўся. Жыў я з дзедам. Рабіць дома няма чаго, дык дзед аддаў мяне да аднаго гаспадара пчол пасвіць. А было ў таго гаспадара аж пяцьдзесят раёў пчол. Кожнага дня раніцай трэба ўсіх пчол пералічыць, ды на пашу гнаць. А ўвечары прыгнаць, зноў пералічыць, падаіць і ў вуллі пазаганяць. Бо гаспадар мне цвёрда сказаў: „Калі хоць адну пчалу згубіш, то не заплачу табе за цэлы год". Вось якая гэта нялёгкая работа была!

— Усё гэта можа быць, — згаджаецца пан.

Зірнуў Янка на талерку золата ды кажа далей:

— Аднаго разу прыгнаў я пчол з пашы, пералічыў: няма адной пчалы... Бацейкі! Бяда будзе! Я бягом назад — пчалу шукаць. А ўжо і змяркацца пачало. Пабегаў туды-сюды — няма пчалы. Аж раптам чую: недзе пчала раве. Я туды. Гляджу, а там, за ракою, сем ваўкоў апанавалі маю пчалу. Яна ж, небарака, адбіваецца ад іх з усяе сілы, не здаецца ваўкам. Кінуўся я пчале на дапамогу. Прыбег да ракі — перавозу няма. Што рабіць? А тут вось-вось ваўкі пчалу разарвуць. Я гэта, доўга не думаючы, схапіў сябе за чуб, разгайдаўся ды — гоп цераз раку! Але не даляцеў да другога берага — плюснуўся проста пасярод ракі. І як камень пайшоў на дно. Ачухаўся сяк-так, пачаў дарогу шукаць, каб наверх выйсці. А тут, як на ліха, на дне ракі нехта агню наклаў ды такога куродыму нарабіў, што дым вочы выядае, нават рыба чмыхае насамі. І дарогі з-за куродыму не відаць. Іду гэта я вобмацкам, аж бачу: мядзведзь стаіць. Хацеў я ўхапіць яго за хвост, ды ён да мяне галавою павярнуўся. Я гэта засунуў яму руку ў горла, дабраўся да хваста і ўхапіўся за яго. Мядзведзь напужаўся ды як ірванецца наверх — так і выцягнуў мяне. Сам пабег з перапуду у лес, а я застаўся на беразе, ды не на тым, што трэба. Тут я зноў ухапіў сябе за чуб, разгайдаўся яшчэ мацней, чым першы раз, і — гоп на другі бераг!

— Свет вялік, — кажа пан, — можа, і праўда.

— Праўда-то праўда, пане, хоць і шчарбатая. Ну, дык вось. Пераскочыў я на другі бераг, але з разгону як грымнуўся аб зямлю, дык па пояс і ўвяз. Я і туды, і сюды, не вылезці. Без рыдлёўкі, думаю, нічога не зробіш. Пабег дадому, схапіў рыдлёўку ды назад. Адкапаў сябе ды бягу пчале на дапамогу. Прыбег, адагнаў ваўкоў, а пчала ўжо і ногі выпруціла: задушылі яе ваўкі, пакуль я бегаў сюды-туды. Што рабіць? Накрыў я пчалу галінкаю, каб ваўкі не з'елі, а сам пайшоў да гаспадара. „Бяда, — кажу, — здарылася". — „Што за бяда?" пытаецца гаспадар. „Ваўкі пчалу задушылі..." Як узлуецца гаспадар, як затупае на мяне: „Цяпер табе за год работы ні гроша не дам!" Маўчу я. Вінаваты. Гаспадар пазлаваўся ды пытаецца: „А ваўкі яшчэ не з'елі пчалу?" — „Не", кажу. „Ну то добра, што хоць пчала цэлая. Паедзем забяром". Запрэглі мы дзве пары валоў — паехалі. На лузе абялілі пчалу, пасеклі на кавалкі ды прывезлі мяса дамоў. Дома пасалілі — аж дванаццаць кадушак насалілі! Цэлы год тое мяса елі.

— Свет вялік, — кажа пан, — можа, і праўда.

— Ну, а як скончыўся год, гаспадар выгнаў мяне і ні граша не даў. Толькі выпрасіў я ў яго кавалак воску. Зляпіў я з воску кабылку, сеў і паехаў да дзеда, бо бацькі ў мяне ўсё яшчэ не было. Еду, еду — прыехаў у лес. А тут і есці захацелася. Панюхаў носам — чую: на хвойцы печаным пахне. Пад'ехаў я да хвойкі, аж там, у дупле, печаныя дзятлы пішчаць. Ну, голад не цётка. Палез я ў дупло па дзятлаў. Лезу рукою, лезу нагою — не ўлез, лезу галавою — не ўлез, кінуўся ўсім тулавам — улез. Наеўся дзятлаў колькі хацеў, ды назад. Лезу рукою — не вылез, лезу нагою — не вылез, лезу галавою — не вылез, усім тулавам кінуўся — таксама не вылез. Успомніў я, што ў гаспадара за лаваю сякерка тарчыць. Пабег, узяў сякерку, прасек у дупле большую дзірку і вылез.

— Свет вялік — кажа пан, — можа, і праўда.

— Вылез я, сеў на кабылку, сякерку за пояс заткнуў і далей еду. А сякерка цюк ды цюк, цюк ды цюк... Раптам кабылка стала і ні з месца. Азірнуўся я — палавіны кабылкі няма: адсекла яе сякерка! Бадай цябе ліха! Выразаў я ракітавы дубец, сшыў кабылку ды зноў еду. А ракіта як расці ды расці — вырасла да неба. Ну, думаю, палезу на неба, пагляджу, што там робіцца.

Пан перастаў пыхкаць люлькай:

— І што ж ты там бачыў на небе?

— Шмат чаго, пане, бачыў. Іду гэта па небе, аж у адной хаце святыя вечарынку спраўляюць: п'юць, гуляюць, вясёлыя песні спяваюць. Хацелася мне зайсці да іх але ж не, думаю: з п'янымі лепш не чапайся, а то яшчэ грымакоў надаюць. Іду далей. У другой хаце святы Мікола храпе пад сталом як пшаніцу прадаўшы. Відаць, добра гарэлкі нажлукціўся.

— Свет вялік, можа і праўда, — кажа пан.

— Дзіва што праўда! Я ж на свае вочы бачыў. Заглянуў я да Міколы, думаў, можа, пажывлюся чым. Ды дзе там! Бутэлькі на стале пустыя, хлеба ні крошкі. Пакруціўся я, бачу: валяецца каля гаспадара залатая шапка. Вазьму, думаю, хоць Міколаву шапку. Зайду дзе па дарозе ў карчму, мяне за яе і накормяць. Узяў шапку ды назад. Тым часам Мікола прачнуўся, пачаў шукаць шапку. А яе няма. Нарабіў ён крыку, зыку... Трэба дадому ўцякаць, думаю, бо як зловяць — бяды не мінеш. А тут ніяк не знайду таго месца, дзе ракіта на кабылцы расце. Я і туды, і сюды — няма ракіты. Аж бачу: у гумне святыя грэчку веюць, мякіна так і рассыпаецца па ўсім небе. Я гэта давай яе лавіць ды на вяроўку віць. Звіў, прывязаў адным канцом да неба і пачаў спускацца на зямлю. Спусціўся да канца вяроўкі, а зямлі ўё не відаць. Добра яшчэ, што пры мне сякерка была. Я гэта адсяку канец вяроўкі, знізу падтачу ды спускаюся далей.

— Свет вялік, — кажа пан, — можа, і праўда.

— Тачыў гэтак, тачыў ды не агледзеўся, як прамінуў зямлю і апынуўся ў пекле. Іду гэта я па пекле, разглядаю, як там і што. Аж бачу... панаў бацька-нябожчык — худы, босы, абшарпаны — свіней пасе.

Пан вылупіў вочы, люлька выпала з зубоў.

— Ілжэш, хаме! — закрычаў ён. — Не можа таго быць, каб мой бацька свіней пасвіў!

А Янка цап за талерку з золатам ды за дзверы!

# ПРЫВІТАННІ З ГДАНЬСКА

**Дарагая „Зорка"**

Прыехала я да бабулі ў Ярылаўку і не было там майго коціка. Праз чатыры дні ён не прыйшоў і ад суму я склала такі вершык:

Мой ты коцік  
Дзе прапаў?  
Дзе хапун  
Цябе ўзяў?  
Ці ты мышак  
Дзе шукаеш?  
Ці па свеце  
Дзе блукаеш  
І прыгод новых шукаеш?  
Ці пабег з вясной гуляць  
І забыўся нас чакаць?  
Мы ўсё плачам  
І гукаем:  
Прыбягай, бо  
ад'язджаем!

**Цаліна Глагоўская**



**Ад рэдакцыі:**

**Каханая Цалінка!**

Твой коцік, сапраўдны валацуга. Пэўна, калі наступны раз паедзеш да бабулі, зноў яго сустрэнеш. „Зорцы", таксама як і табе, зрабілася сумна. Вельмі цікавіць мяне, ці твой коцік знойдзецца. Я думаю што так.

Твой малюнак вельмі мне спадабаўся. Як усе дзеці, што пішуць у „Зорку", і ты будзеш удзельніцай штомесячных конкурсаў. „Зорку" вельмі ўзрадавала і тое, што ў Гданьску ёсць дзеці, якія чытаюць нашую дзіцячую старонку. Усім дзецям паведамляю, што Цалінка Глагоўская жыве аж у Гданьску, але родную, беларускую мову ведае вельмі добра. Да наступнай сустрэчы, Цалінка! Не забывай пра нашу „Зорку".

**З-ка**




Агнешка Барташэвіч вучыцца ў Арэшкаве. Яна ў пятым класе. Дзяўчынка сфатаграфавалася спецыяльна для "Зоркі".

**Фота Г. Кандрацюк**

## Рашэнне птушынага конкурсу

Сярод удзельнікаў конкурсу пра птушак ("Зорка ад 9 красавіка 1995 г.) узнагароду — гадзіннік з Пагоняй, атрымае **Моніка Мельнік з Бельска-Падляшскага.** Іншыя дзеці, якія даслалі адказы, возьмуць удзел ў штомесячным конкурсе для ўсіх дзяцей, якія пішуць у **„Зорку"**.

А вось правільныя адказы зорчынага конкурсу:

1) дзяцел,
2) шпак,
3) бусел,
4) кураняты.

**З-ка**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# Краскоўскія

## або

## Вячэрнія размовы на плябаніі ў Дубічах-Царкоўных на пачатку ХХ стагоддзя

Артыкул аб жыцці Івана Краскоўскага, які друкуем ніжэй, напісала адмыслова для „Нівы" яго дачка Людміла Краскоўская. Спадарыні Людміле 91 год, жыве яна ў Браціславе. Даведаўся я аб тым з „Голасу Радзімы" і напісаў ёй на пададзены ў гэтай газеце адрас.

Асоба бацькі спадарыні Людмілы, нашага земляка Івана Краскоўскага, цікавіць мяне здаўна. На жаль, даведацца нечага было вельмі цяжка, бо прозвішча Краскоўскага прыгаворанае было савецкай уладай на забыццё. Толькі дзякуючы весткам пададзеным спадарыняй Краскоўскай, я змог пашырыць круг пошукаў. Дапамагла мне ў гэтым Ірына Матус, дзелячыся сваімі неабсяжнымі ведамі пра XIX стагоддзе на нашай зямлі. Дык вось яны, Краскоўскія:

Дзедам Івана быў праваслаўны святар Феафіл Краскоўскі. Бацька Івана, Ігнат Краскоўскі, нарадзіўся у 1850 г. У 1871 г. ён скончыў праваслаўную Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, але стаць святаром відаць і не думаў. У 1872—75 гадах працаваў у Маскоўскім прамысловым банку. У гэтым жа 1875 годзе некалькі месяцаў працаваў у рэдакцыі „Маскоўскіх ведамасцей", а восенню паступіў у Пятроўскую сельскагаспадарчую і лясную акадэмію. І тут нешта здарылася. У Акадэміі Ігнат Краскоўскі вучыўся толькі да мая 1876 г., а пасля ў ягоным жыццяпісе з'яўляецца прагал на паўтара года. Восенню 1877 г. Ігнат Краскоўскі ўжо на святарскім месцы ў Наваельнянскай царкве Слонімскага павета.

Што здарылася? Заглянуў я ў кніжкі, каб паглядзець, што адбывалася ў Расіі ў 1876 г. Аказваецца, гэта год т.зв. „другой Народнай волі" і „хаджэння ў народ". Дзеля гэтага хаджэння нарадавольцы вывучалі земляробства і рамясло. Таму натуральным чынам з'явілася ў мяне ахвота спалучыць прагал у афіцыйным жыццяпісе Ігната Краскоўскага з „народнай воляй". Гэта значыла б, што студэнт Ігнат Краскоўскі ўцёк з Масквы ў Беларусь, схаваўся ў правінцыяльнай глушы.

Пасля прыйшла мне ў галаву іншая думка: а можа гэтая гісторыя не з палітыкі, а толькі з „Сэрцайка" родам? Магчыма, Краскоўскі проста ажаніўся і мусіў пасталець, таму пайшоў працярэбленым шляхам.

Усё-такі ў сямейным жыцці Ігната Краскоўскага таксама хаваецца нейкая загадка. Яго сын, а наш герой Іван, афіцыйна нарадзіўся ў 1880 г. у Дубічах-Царкоўных. Тым часам Краскоўскія жылі тады далёка ад Дубіч. На дадатак у Івана Краскоўскага ёсць і другая дата нараджэння — 1877 г. Такую дату падае ковенская „Часопіс", з якой і пачалося маё зацікаўленне Краскоўскім. Магчыма, інфармацыя ў „Часопісі" памылковая, аднак з другога боку якраз у 1877 г. Ігнат Краскоўскі прабывае невядома дзе.

Як там ні было, у 1878 г. Ігнат Краскоўскі быў рукапалажаны ў дыяканы, і зараз жа ў іерэі. Праз год, па сваёй просьбе, перанесены быў у Рандзіна-Казлоўскую царкву на Ковеншчыне. У 1882 г. царкоўныя ўлады прызначылі яго дэпутатам па Дзятлаўскаму благачынню Слонімскага павета.

Толькі ў 1884 г. а. Ігнат Краскоўскі пераведзены быў у Дубічы-Царкоўныя, дзе апрача выконвання святарскіх абавязкаў навучаў Закону Божага ў тутэйшай народнай школе.

Дык чаму ж Іван Краскоўскі нарадзіўся менавіта ў Дубічах? „Часопісь" падае толькі „у бельскім павеце", тым не менш тут відавочна маюцца на ўвазе Дубічы.

Адказ на гэтае пытанне патрабуе далейшых пошукаў, перш за ўсё генеалагічных. Магчыма, у Дубічах жыла яго сям'я або па бацьку, або па маці, Алене Юльянаўне. На жаль, яе дзявочае прозвішча мне невядомае.

Іван, сын Ігната, унук Феафіла ішоў спачатку сямейным шляхам. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, у якой вучыўся яго бацька, а можа і дзед.

Як прадмет далейшай навукі выбраў гісторыю, але тое, што было, цікавіла яго не менш за тое, што будзе, ці дакладней, што мае быць.

**Іван Краскоўскі быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады.**

За палітыку, хочаш не хочаш, пацярпеў і бацька Івана. У 1906 г. ён быў пераведзены як вікарый у Саколку. Гэтае перанясенне безумоўна трэба разглядаць у сувязі з ранейшым арыштаваннем сына. Магчыма, Іван рабіў рэвалюцыю не толькі ў Варшаве, але і ў Дубічах. Шмат чаго можна яшчэ дабавіць да жыццяпісу Івана Краскоўскага.

У 1917 г. ён быў адным з арганізатараў беларускага вайсковага руху. На Украіне быў дыпламатычным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі. Быў сябрам Рады БНР, а ў 1919 г. — міністрам асветы ва ўрадзе Вацлава Ластоўскага. У Грузіі быў дыпламатычным прадстаўніком БНР. Пасля яго высялення з Польшчы ў Літву літоўскія ўлады прапанавалі яго на міністра беларускіх спраў у літоўскім урадзе. Да яго прызначэння не дайшло ў выніку супраціву Ластоўскага, які пабаяўся, што Краскоўскі не будзе бязвольным прыладай ягонай палітыкі. У 1925 г. Краскоўскі ўдзельнічаў у г.зв. берлінскай канферэнцыі, на якой выказаўся за самаліквідацыю ўрада БНР і пераезд у Мінск. Адносна яго перакладчыцкай працы прыпомнім, што ён быў адным з ініцыятараў перакладу Святога Пісання на беларускую мову.

Гэта толькі жменька сухіх фактаў, якія дазваляюць зразумець, пра якога чалавека мы былі прымушаны забыць.

На канец не адмоўлю сабе моманту трыумфу над сваім шэфам, галоўным рэдактарам „Нівы", з якім ужо нейкі час спрачаемся аб тэрміне і спосабе ўзнікнення беларускай нацыянальнай свядомасці на Беласточчыне. Яўген Мірановіч заўпарціўся не бачыць існавання гэтай свядомасці да I сусветнай вайны.

Гісторыя радзіны Краскоўскіх дае мне ў руку доказ лабараторнай чысціні, што гэтая свядомасць непасрэдна перадаецца з часоў Міхала Баброўскага. Феафіл Краскоўскі — гэта праваслаўны святар, які добра помніць часы уніі. Яго сын Ігнат таксама праваслаўны святар, а ўнук Іван стварае беларускую партыю.

Я вельмі ўдзячны спадарыні Людміле Краскоўскай за тое, што захавала ў памяці тыя дубіцкія вечары. Паколькі яе дзед памёр у 1909 г. (і пахаваны быў у Дубічах), усё адбываецца не пазней гэтага года.

Заплюшчваем вочы і бачым вечар як з Чыквіна. На зложаных дровах сядзяць: бацечка, яго сын, настаўнік, кіраўнік пошты, сяляне. Затрымоўваем кадр: няўжо ж гэта ціхі вечар у Севера-Заходнім краю?

Але ж мы ўсёведныя і ўсёмагутныя. Можам пусціць фільм назад, можам і ўперад. І ведаем:

Гэтыя вужакі, што п'юць малако з адной міскі з людзьмі, спаўзлі ў Дубічы ці не са старонак „Вобразу Літвы" бяльшчаніна Ярашэвіча. Гэты святар ужо тут не пастыр, а гэты паповіч заснаваў беларускую партыю. Вера Матэйчук, будучая настаўніца ў Грабаўцы, сама яшчэ школьніца, а тут сядзіць сябра, а можа і заснавальнік беларускага настаўніцкага саюза. А гэтыя хлопцы, што гуляюць на вуліцы, пойдуць у беларускія партызаны і спрабуюць забіць самога Маршалка.

XX стагоддзе толькі пачалося, а можа трывае яшчэ „доўгае" XIX-ае. На панадворку дубіцкага святара гутараць **беларусы.**

**Алег Латышонак**

# З жыцця Івана Ігнатавіча Краскоўскага

Іван Ігнатавіч Краскоўскі нарадзіўся 24 чэрвеня 1880 года ў вёсцы Дубічы Гродзенскай губерні. Яго бацька, Ігнат Краскоўскі, быў у Дубічах свяшчэннікам і працаваў там цэлае жыццё. Дубічы былі тады досыць вялікай вёскай з поштай і школай. Дубічы знаходзіліся блізка слаўнай Белавежскай пушчы. Бацька распавядаў, што яны ездзілі летам возам на конях у Белавежскую пушчу, дзе збіралі ягады і грыбы. Прывозілі поўныя вялікія кошыкі. З грыбоў бралі толькі баравікі і рыжыкі, іншых грыбоў не елі. У ваколіцах Белавежскай пушчы сяляне жылі яшчэ ў курных хатах без коміна. Яны трымалі ў хатах вужоў замест кошак, каб лавілі мышэй. Гэтыя вужы пілі малако з міскі разам з дзецьмі. І гэта ўсё было ў другой палове XIX стагоддзя! Аднойчы наша сям'я была летам у дзеда ў Дубічах. Я прыгадваю як вечарам на двары ў дзеда сходзіліся сяляне, настаўнік, кіраўнік пошты, сядалі там на зложаных дровах і гутарылі аб розных справах. Было відаць, што дзеда тут паважалі і любілі.

Бацька скончыў сярэднюю школу ў Вільні. У 1903—1905 гадах ён вучыўся ва універсітэце ў Варшаве на гістарычна-філалагічным факультэце. У 1903 годзе ён ажаніўся з Валянцінай Сямёнаўнай Сокальскай. У 1905 годзе бацьку арыштавалі за ўдзел у студэнцкім руху і звольнілі з універсітэта ў Варшаве. Ён скончыў універсітэт у Пецярбургу як гісторык-эканаміст. У 1907—1914 гадах бацька жыў у Вільні, дзе працаваў настаўнікам у двух гімназіях і выкладаў гісторыю і геаграфію. Быў членам Беларускага настаўніцкага саюза і розных асветных таварыстваў. Падчас вайны ў 1914—1919 гадах Іван Ігнатавіч Краскоўскі жыў на Украіне і працаваў там у Саюзе гарадоў і ў розных установах Украінскай Народнай Рэспублікі. У 1920 годзе ён працаваў на Каўказе ў Грузіі. У Вільню бацька вярнуўся ў 1921 годзе.

ІВАН ІГН. КРАСКОЎСКІ

Стары партыйны беларускі працаўнік, адзін з фундатараў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Радзіўся у 1877 г. ў Городзеншчыне (у Бельскім павеце); вядомы, як віленскі пэдагог.

У 1917 гаду прыймаў энэргічные участые ў арганізацыі беларускіх-вайсковых, цяпер-дыпламатычны прэдстаўнік у Грузінскай Рэспубліцэ.

*Здымак Івана Краскоўскага з біяграмай, які друкаваўся ў ковенскім выданні "Часопісь".*

У Вільні ў Беларускай гімназіі ён выкладаў гісторыю Беларусі. Адначасова выконваў функцыі старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта, сакратара Беларускай школьнай рады, старшыні Беларускага саюза кааператываў. У 1922 годзе члены Беларускага і Літоўскага нацыянальнага камітэта былі арыштаваны і высланы ў Літву (працэс 33). У 1922—1925 гадах бацька жыў у Латвіі. Ён арганізаваў у Дзвінску Беларускую дзяржаўную гімназію і быў яе дырэктарам да 1924 года. Адначасна ён быў старшынёю Беларускага нацыянальнага камітэта ў Латвіі (таварыства „Бацькаўшчына"). У 1924 годзе бацька быў арыштаваны. На судзе ў Дзвінску ўсе беларускія дзеячы былі апраўданы, але бацька мусіў выехаць з Латвіі таму, што меў літоўскае грамадзянства. У 1925 годзе ён выехаў у БССР, дзе ў 1925—1929 гадах жыў у Мінску. Там ён працаваў у Дзяржплане БССР. У 1928 годзе быў прызначаны навуковым працаўніком Беларускай акадэміі навук. Адначасна бацька быў дацэнтам па гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску. У 1930 годзе яго перавялі ў Госплан СССР у Маскву (планаванне экспедыцыяй Акадэміі навук). У канцы 1930 года бацьку арыштавалі ў сувязі з працэсам беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Пасля суда бацьку выслалі ў Самару, дзе ён жыў у 1931—1941 гадах. Працаваў там эканамістам у Крайплане (планаванне навуковых даследаванняў), быў кіраўніком экспедыцыі па даследаванню сыравін. У 1937 годзе бацьку ізноў арыштавалі як старога беларускага дзеяча, трымалі да 1940 года і выпусцілі без суда. Падчас вайны ў 1941—1945 гадах ён жыў у саўгасе Мелекескага раёна, дзе выкладаў гісторыю ў сярэдняй школе. Пасля вайны бацькі жылі ў цяжкіх абставінах, пераязджалі з аднаго мястэчка ў другое, але не маглі знайсці добрую кватэру. Згубілі шмат сваіх рэчаў. У 1946—1948 гадах бацька працаваў настаўнікам у двух сярэдніх школах у Мелекесе, а ў 1948—1949 гадах працаваў у сярэдняй школе ў Шыраеве (Куйбышаўская вобласць). У 1949 годзе бацька пайшоў на пенсію. Пасля смерці жонкі ён жыў у Доме інвалідаў у вёсцы Бальшая Ракаўка. Нарэшце пасля доўгіх клопатаў я дабілася, каб бацька ў 1953 годзе прыехаў у Чэхаславакію. У 1953—1955 гадах ён жыў разам са мною ў Браціславе. Бацька памёр 23 жніўня 1955 года; пахаваны ён у Браціславе. За доўгія гады свайго жыцця бацька пераважна займаўся грамадскай дзейнасцю і яму не хапала часу на навуковую працу. У вольны час ён пераклаў з англійскай мовы на беларускую „Гамлета" У. Шэкспіра, але гэтая праца не была надрукавана.

**Людміла Краскоўская**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# НЯДЗЕЛЯ МІРАНОСІЦ

*(Марк, 15:43 — 16:8)*

Другая нядзеля і трэці паслявелікодны тыдзень прысвечаны памяці Жанчын-Міраносіц і побач з імі тайных вучняў Хрыстовых: Язэпа Арымафейскага і Нікадзіма. Гэтыя людзі, не будучы апосталамі, выявілі нават большую за іх адданасць і любоў да Хрыста ды былі сведкамі Ягонай смерці і Уваскрэсення. З ліку Міраносіц Евангелле ўвекавечыла толькі некаторыя імёны: Марыі Магдаліны, Марыі Кляопавай, Саламіі, Сусанны і Іааны, жонкі вяльможы пры двары цара Ірада Антыпы. Некаторыя з іх дапамагалі Хрыстовай грамадзе матэрыяльна, але назоў „міраносіца" паходзіць ад „міра" — каштоўнай алівы, зрыхтаванай з многіх духмяных рэчываў.

Евангельскія Міраносіцы — сімвал бескарыснага служэння Богу і бліжнім, і ў гутарковым ужытку „міраносіцамі" называюцца тыя жанчыны, якія самаахвярна і аддана, дзейна служаць Царкве. Не могучы быць святарамі, яны займаюцца дабрачыннай дзейнасцю, катэхізацыяй дзяцей; прыбіраюць і ўпрыгожваюць храмы, рыхтуюць просвіры і свечкі. Інакш кажучы, выконваюць цэлае мноства тых нібыта другарадных, але важных прац на падабенства гаспадыні ў хаце. Гэтыя працы, часта недаацэньваныя, вельмі патрэбныя. Каб выконваць іх, трэба ўмець пагадзіцца на другарадную ролю добраахвотнай служанкі, трэба вельмі любіць тое або таго, дзеля каго гэта робіцца.

Такія былі Міраносіцы і незлічонае мноства Марфаў і Марыяў на працягу гісторыі. Усе яны разумелі і адчувалі, колькі абавязаны яны Хрысту і хрысціянскай Царкве. Насуперак несправядлівым звычаям і законам сваёй эпохі, Хрыстос вярнуў жанчыне ейную першабытную годнасць раўнапраўнай асобы, маці і жонкі. Хрыстос падняў жанчыну са стану паніжэння, які нават слаўны філосаф Сакрат лічыў нармальным, і ў якім жанчына, асабліва на Усходзе, маўклівa знаходзілася стагоддзямі. На практыцы барацьба за раўнапраўе жанчын адбываецца дагэтуль нават у хрысціянскіх краінах, але колькі жанчына абавязана Хрысту бачна хаця б у супастаўленні з лёсам жанчын-мусульманак.

Эмансіпацыя жанчын — паняцце поўнае супярэчнасцей: у ёй таксама назіраюцца адмоўныя перахілы. Скрыўленая, карыкатурная эмансіпацыя — гэта жанчына за рулём трактара, у зашмальцаванай фуфайцы, у гумавых ботах. Прыкра глядзець на жанчын, якія чырвонымі, мазолістымі рукамі кладуць асфальт на дарогах, цягаюць цяжкія мяшкі ў крамах і працуюць побач з мужчынамі на пабудовах. Няўжо былі б яны натхненнем для санетаў Петраркі і ці наогул гэта нармальна? Гэта не эмансіпацыя, але незаслужаная дэградацыя. З другога боку бывае і гэтак, што сваімі занняткамі, вопраткай, паводзінамі жанчына губляе сваю жаночасць і здраджвае свайму асноўнаму прызванню. Жанчыны хочуць быць і бываюць палітыкамі, інжынерамі, нават касманаўтамі, але гэта не справа неабходнасці, толькі асабістай амбіцыёзнасці. Маючы права на кар'еру, яны адначасова маюць адвечныя абавязкі, якіх ніхто іншы за іх не можа выканаць — абавязкі жонкі і маці, ахоўніцы хатняга ачага. Прыярытэт гэтых абавязкаў добра зразумела адна амерыканская спартсменка. Пасля Алімпіяды ў Мельбурне, дзе здабыла залаты медаль, яна неспадзявана для ўсіх заявіла, што адмаўляецца ад спартыўнай кар'еры, бо мае маленькую дачушку і хоча заняцца перш за ўсё ейным выхаваннем.

Новыя магчымасці і адхіленне ўстарэлых абмежаванняў не вызвалілі жанчыну ад традыцыйных абавязкаў і заданняў. У некаторай ступені праз стагоддзі не змянілася прыродны характар жанчыны, а разам з гэтым — ейная роля і лёс. Ігумен Інакенцій (Паўлоў) пісаў, што ад 50 да 90 працэнтаў пастаянных наведвальнікаў храмаў складаюць жанчыны. „Яны пераважна нешчаслівыя дома; у храме шукаюць падтрымкі ў іх нялёгкім жыцці", — сказаў ён, і ў сапраўднасці не сказаў нічога новага. Гэтак, як у любую эпоху, жанчыны зноў прыносяць у храм усе свае турботы, боль мацярынскага сэрца, хваляванні за сям'ю і дзяцей, слёзы крыўджанай, некаханай жонкі.

Нядзеля Жанчын-Міраносіц — нефармальнае хрысціянскае свята ўсіх жанчын. У гэты дзень ёсць выключна добрая нагода глыбей і больш грунтоўна ўсвядоміць, ушанаваць і пакланіцца перад імі за іхнюю сапраўдную ролю ў Царкве, у сям'і ў грамадстве.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Беларусь у смяротнай пагрозе

Я — не палітык, я — чалавек беспартыйны, але для мяне не абыякава тое, што робіцца побач мяне, а тым больш тое, што чаўпецца цяпер у так блізкай майму сэрцу Беларусі. Астатнія падзеі моцна мяне хвалююць. Беларускі народ выбраў прэзідэнта. І што ж гэты цудатворца робіць? Усё сказанае ім аказалася хлуснёю. Ну, што ж, ён вырас у асяроддзі атручаным маной. Мяне моцна абураюць цяперашнія дзеянні прэзідэнта, які дае загад сваім малайцам-ахоўнікам надзяваць на галовы маскі, у рукі браць аўтаматы і дубінкі, каб масакраваць дэпутатаў — выбраннікаў народа, якому раней даў ён прэзідэнцкую клятву, што такога рабіць не будзе. Загад малайцы выканалі дакладна і акрываўлены дэпутатаў вывалaкли з парламента. Чаму прэзідэнт з так звярынай нянавісцю кінуўся на малую групу няўзброеных дэпутатаў? Яны ж толькі асмеліліся рабіць тое, што абяцалі сваім выбаршчыкам, асмеліліся прыпомніць прэзідэнту тое, што ён абяцаў народу і патрабавалі стрымаць абяцанне.

Давайце задумаемся, браты і сёстры беларусы, хто ж такі Лукашэнка: збаўца, дыктатар, псіхічна неўраўнаважаны чалавек, здраднік, ці проста савецкі чалавек? Каго выкарміла наша родная, замучаная, стагоддзямі таптаная ботамі захопнікаў з усходу і захаду, беларуская зямелька? Адказ можа быць толькі адзін: гэта здраднік! Я ацаняю яго не за тое, што ён гаворыць, а за тое, што ён робіць і каму ён хоча паддобрыцца. Я разумею, што абвінавачваць чалавека ў здрадзе гэта вялікая адказнасць для мяне. Каб пацвердзіць, што я не памыляюся, яшчэ раз вярнуся да гэтага, што ён робіць. Ці шчыры беларускі патрыёт будзе пляваць на беларускую культуру, мову, гісторыю, ці будзе імкнуцца скасаваць гістарычны беларускі сцяг і герб? Не! Лукашэнка — гэта здраднік чыстай крыві. Ён ненавідзіць беларусаў, беларускую незалежную дзяржаву і робіць усё, каб палажыць гэту дзяржаву на лапаткі. На якія сілы лічыць „наш" прэзідэнт? А вось яны: адроджаная Чырвоная Армія з генераламі тыпу Жырыноўскі, з камандзірамі, якія адкрыта патрабуюць далучыць Беларусь і іншыя незалежныя дзяржавы да Рускай імперыі. Дзеля гэтага ён не толькі ідзе на каленях, але паўзе на жываце, як вужака, у Маскву. Яго не цікавяць рускія дэмакратычныя сілы. Яму марыцца пажыццёвая пасада губернатара Северо-Западного края Расіі.

Будзем верыць, што мары Лукашэнкі астануцца ўсяго марамі. Аднак гэта рэальная, смяротная пагроза для Беларусі.

Мне яшчэ хочацца выказаць салідарнасць з беларускімі патрыётамі-дэмакратамі, асабліва з тымі, што пацярпелі ў парламенце ад „герояў" Лукашэнкі. Нізкі паклон Вам, дарагія сябры! Я сэрцам і душою з Вамі! Я ўпэўнены, што маю думку падзяляюць тысячы беспартыйных беларусаў.

**Васіль Бацкель**
**Беласток**

P. S. Чаму на прэзідэнцкіх выбарах значная частка работнікаў калгасаў і саўгасаў прагаласавала за Лукашэнку? Мабыць, спрацаваў прынцып прафесійнай салідарнасці: ты калгаснік, і я калгаснік — трымаймася разам! Трэба памятаць, што сённяшнія земляробы — патомкі загнаных у калектыўныя гаспадаркі сялян. Чаму ж тады яны не хочуць адмяніць свой лёс, стаць незалежнымі гаспадарамі сваёй зямлі, працаваць самастойна і цешыцца вынікамі сваіх намаганняў? Адказ просты: яны не маюць грошай каб купіць зямлю і прылады. Цяперашніх калгаснікаў дзяржава давяла да жабрацтва і голаду, а працэс збяднення ішоў дзесяцігоддзямі. Доўгае зняволенне прынесла свае горкія плады. А Лукашэнка і ягоныя паплечнікі — сапраўдныя віноўнікі таго, што сталася — віну ўскладаюць на дэмакратаў. І зноў задзейнічаў любімы прыём праваднікоў таталітарных рэжымаў — усяму вінаваты ворагі народа. Таталітарная дзяржава не можа існаваць без ворагаў, а калі іх няма, трэба абавязкова знайсці іх. У Беларусі ў якасці ворагаў аб'яўлены дэмакраты.

**В. Б.**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка VIII

Прыводжу далейшыя фрагменты выказванняў маёй маці аб „роднай старане".

„Ты сам знаеш, як хутка мінаюць лета. Ні аглянецца чалавек, а тут ужо і дзяцінства прайшло, і маладосць праляцела, і старасць на носі. Ну, але што ж парадзіш на гэто? Такое чалавечэ жыцце і німа ніякай на гэто рады. Так яно палучаецца, што здаецца, вылез толькі што чалавек з калыскі, а яго ўжэ ў труну кладут. Ну, але бачыш усё гэто нармально, калі чалавек жыве ў сваёй роднай старане і ў ёй умірае, гэто пабоскаму. Вядомо, што цяпер нашы людзі то нараджаліся па цэлай Польшчы. А некаторы то засталіся жыці ў Германіі, некаторыя то ні вярнуліся з Расеі. А былі такіе, што паехалі, шукаючы лепшаго жыцця аж у Амэрыку. Ну вядомо што па-рознаму там людзям жывецца. Можэ некаторы то жывут і лепш чым у нас. Але і тут то німа што наракаці. Народ пачаў жыці вельмі добра. Бачыш, Гамулка то зліквідаваў гэты праклятыя абавянзковы даставы і стало людзям жыці вельмі добрэ. А ты знаеш, што нібыто такім як я старым крукам мают даваць мэрытуру, знячыцца бесплатны грошы?! То ж гэто будзе праўдзівы рай на зямлі?! То нашто тады будзе патрэбна тая цэла Амэрыка? То, значыцца, Амэрыка тут будзе, на месцы. Ну і вельмі добрэ тое, што тут у нас людзей у калхозы сілаю ні загналі. От таму мы і ні хлебнулі таго гора, што людзі хлебнулі ў Савэтаў.

Ну, але я то ужэ гавару сіхібо ні тое, пра што ты пытаеш. То я ужэ буду гаварыці пра другое. То значыцца яно так. От калі я хадзіла ў Кіеў або калі мы ў час бежанства аж за Маскву заехалі, то кругом бачылі разны землі, і разны стораны. Некаторыя то былі вельмі харошы. От хоць бы тое сланэчнікаво поле пад Кіевам. Ну, усе адно як залатое морэ без канца і краю. Ну, але бачыш, чалавек да гэтаго сэрцом ні ліпне, бо яно чужое. А зусім другое, калі тут, у сваёй старане, бывало, паглядзіш, як выходзіт або заходзіт сонцо, як блішчыт, усё адно як серабро вада у Нарві, калі на яе свеціт месяц, а як цвітут у нас вішні і яблыні весною! Ну, а як шчэбечут ластаўкі або клекочут буслы, ну нават тая сава або пугач робіт свае: угу, угу. Здавалася б ні вельмі гэто хароша песня, але усё гэто чалавек чуў ад маленькосці тысячу разоў і да ўсяго гэтаго прывык, так што ужэ без гэтаго і жыці ні можэ. Або ты вазьмі хоць бы нашу зязюльку. Як жэ яна куе вясною! Як пачне каваці, то кажду работу кінеш, задумаешся над сваёю судьбою і хоць ні вельмі верыш, то лічыш колькі лет да веселя або колькі лет табе яшчэ жыці на свеці. От, што значыт гэта родна старана, ні вядомо дзе яе больш, па-за намі чы у нашым сэрцы. Божэ, мой Божэ! Ой, я ужэ відно пляту абы што.

Ну, скажу табе яшчэ і тое, што жылі мы цэлэ жыцце вельмі цяжко. Мне мама то вельмі часто расказвалі пра паншчыну. То тады людзям жылосе найгорш. Калі пападаўсе кепскі пан, то была бяда. А найгоршы то былі гэты разны эканомы і гайдукі. Тые то маглі чалавека бізунамі насмерць забіці. Але і ў час мае маладосці то жылосе вельмі цяжко. Ты знаеш, мы ж цэлы час у прагалодзе жылі. Бывало, як мама замесіт хлеб і ён яшчэ у дзежцы падыдзе, то я з сёстрамі, а было нас аж пяць, то станем кругом дзежкі і так просто пальцамі бярэм росчыну і ў рот, і ў рот. І ты знаеш, такая была яна смачна, усе адно як мёд! Але як толькі паяўляліся ў хаці мама, то хваталі за дзеркача і лупілі па ком папало. А мы усе ходу з хаты, а праз тыдзень зноў тое самэ.

Ну, а як жылосе за санацыі? Ні дай Бог як цяжко. Ні было дзе зарабіці на плацце або чаравікі. Ну то хадзілі да жыдоў у Нараўку, у Нарву, у Ялоўку, у Нізбодку або ў Гайнаўку, чы навет у Кляшчэлі. Ты знаеш, што выходзілі перад поўначу. Трэба было зайняці месца перад усходам сонца. А працавалі аж да цямна. Ты знаеш, што гэто выходзіло так па пятнаццаць-семнаццаць гадзін.

І ты знаеш колькі за гэта жыд плаціў? Пяцьдзесят-шэсцьдзесят грошай, паўзалатоўкі і ўсё, значыцца. А ежу то трэба было сваю несці. А ты знаеш, што кілё цукру каштавало больш як залатоўку. Ты толькі падумай! Больш як два дні трэба было працаваць на кілё цукру. О, такое гэто было жыце за тае Польшчы! Толькі дурны чалавек можэ яго хваліці. Ні лечылісе тады, умiралі, бо ні было ў людзей грошэй. Што ты думаеш, што было так як цяпер, што Дзедзела (доктар з Юшкавага Груда — А.Б.) прыедзе дахаты паслухае, пастукае і дасt бясплатных таблеткаў. Барані Божэ! А наука-то якая ў нас была? Штэры класы і ўсё!

То, значыцца, жылосе цяжко. Але ты знаеш як маладзёж спявала: і лучане, і Слабодка, і рыбацкіе дзяўчата, і бандарскіе. Толькі ляскат плыў па Нарві. А сегодня жывут добрэ, але маўчат, ні співают. Што гэта такі за фокус? Скажы ты мне, калі знаеш. Пытаеш, ці любілі мы свой край? А як жа! Любілі. І лічыласё за вялікае нішчасце, калі прышлосе дзесь далеко замуж выходзіць. А калі выходзіла дзяўчына ў свою вёску, або ў суседню, то дзякавала і Богу, і судзьбе, што будзе жыці ў роднай старане. То ж у сваёй старане найлепш, бо яна родна і ўсё".

**Алесь Барскі**



© PDF: Kamunikat.org 2015
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

# ІНТЭРВ'Ю З ПІСЬМЕННІКАМ

**На пытанні Барыслава Рудкоўскага адказвае беларускі пісьменнік ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

*— Скажыце, над чым вы цяпер працуеце?*

— Я працую адразу над дзвюма кніжкамі: адна з іх дакументальная, гістарычная, другая — гэта ўспамін аб сваёй бытнасці.

*— Хто вам іх выдасць?*

— Не ведаю. Буду шукаць спонсара, але хіба не знайду.

*— Галоўны рэдактар „Нівы" д-р Я. Міраповіч у размове са мною 12 снежня 1994 г. згадзіўся надрукаваць маю карту „Тапаграфія дарог, мастоў і гідраграфічнай сеткі" вёскі Грабавец. Аднак жа там неабходна далучыць тэкст аб здарэннях на паасобных мясцінах. Дык вы мусіце аб гэтым напісаць. Як вы ставіцеся да гэтага?*

— Я згодны, хаця мяне сустрэла многа непрыемнасцей там, у родным Грабаўцы. Але людзі прыходзяць і адыходзяць, а зямля астаецца. Няхай жа і я пакіну памяць аб маім трагічным жыцці і адабраным дзяцінстве.

*— Мы ўсе чыталі кніжку „Пожня". Ці не думаеце вы перавыдаць яе з нейкімі зменамі і дадаткамі? Там не хапае апісання асяроддзя — надвор'я, стану дарог, няма паступовага пераходу ад аднаго здарэння да другога. Нічога не напісана аб вашай дзейнасці ў Бяшчадах. Як там было ў рэчаіснасці?*

— Я хацеў бы выкрэсліць з кніжкі ганебныя словы: „банда УПА". Аднак жа, уважаю — няма фінансавай магчымасці для яе перавыдання. Каб апісаць падрабязна ўсе падзеі, кніжка патаўсцела б прынамсі ў два разы. Іншыя назвы варта было б таксама змяніць.

*— Якія вашы адносіны да дзеючых асоб твора? Будуць яны сёння мець іншую ацэнку, ці астанецца ўсё па-старому?*

— Усё застанецца па-старому. Там напісана праўда, якая не падлягае змяненню. Эпізоды ўзяты з майго нешчаслівага жыцця, асабліва з дзяцінства.

*— Што б вы маглі цікавага сказаць з эпізодаў ці здарэнняў у Бяшчадах? Вы самі там былі ды дзейнічалі, хаця і па загаду.*

— Летам 1947 г. наша рота стаяла ў Ціснай, што ў 17 км на поўдзень ад Балігрода. Ды там камандзір роты загадаў пяць дзён аперыраваць у горных лясах. Я ішоў ззаду з аўтаматам на грудзях. Мы былі так змучаныя, што ні на што не звярталі ўвагі. Ішлі глыбокай далінай з ручайком ды павалепымі аграмаднымі дрэвамі сярод высокіх гор. Нечакана я пабачыў у зарасніку нейкую пару ці туман. Я пазбаўлены быў шчаслівага дзяцінства і фактычна роднага дому. Не меў куды вяртацца. І таму свайго жыцця я не цаніў. Жадаў, каб хутчэй адысці ў нябыт, быць забітым. Задумаўся: „Адкуль жа выходзіць гэтае выпарэнне?" Пайшоў паглядзець. І на маё здзіўленне я ўбачыў пячору, дзе сядзелі двое старэйшых — мужчына і жанчына. „Шчо вы тут робытэ?" — запытаўся я мімаходам. Жанчына сказала: „Ховаемося від полякіў". „А шчо вы тут йісте?" — дадаў я. „Часом дэ-хто нам прыносыть". Пасля гэтага жанчына абняла мяне за шыю, прытуліла да грудзей, перахрысціла і благаславіла, каб я шчасліва вярнуўся дамоў. Ды ў мяне дому няма. Ніхто не чакаў майго вяртання. Словы жанчыны ўспрыняў я з нейкім засмучэннем, хаця яна ні ў чым не вінаватая. Рэшта салдат пайшла і я вымушаны быў іх даганяць, выціраючы слёзы з вачэй.

*— Чым вытлумачыце даверлівасць да вас як салдата ў мундзіры, ўціхамірніка?*

— Таму, што я адразу загаварыў па-свойму.

*— Што хацелі б вы сказаць на заканчэнне?*

— Я ўдзячны вам за закіќаўленасць мною і маёй літаратурнай дзейнасцю.



*Партрэт Васіля Петручука намаляваны Барыславам Рудкоўскім.*

<u>У кіпцюрах цацерука</u>

# ПУНЯ

У далёкай мінуўшчыне гусі выратавалі Рым. У бліжэйшым нам прошлым Бусліхіны куры выклікалі смерць камунізму. Яшчэ ранкам жвава корпаліся ў сваім закутку агарода, каб апоўдні напруціцца, можна сказаць, оптам. А вечарам панна Шчапкоўская Іаанна, як не глядзі — акцёрка, аб'явіла ўсяму свету, што вось-вось памёр камунізм. Яшчэ цёплы, усё-такі калее ўжо прыгожа ў падзямеллях цэнтральнага камітэта. У той самы час дубелі і Бусліхіны куры, хаця вядома, у месцы менш саноўным.

Ніхто здаровы не паверыць, што было гэта толькі чыстае супадзенне абставін, хаця гісторыкі, заняўшыся чым іншым, важкасць здарэння звычайна не прыкмецілі.

Бусліха, пакінутая сама сабе, высвятляла ўсе сумненні так, як умела гэта зрабіць найлепш. Без дапамогі навуковых работнікаў, дэтэктываў, ці іншых сышчыкаў.

Пранікліваe следства пайшло на Чахранаў панадворак, узнялося з віскам пад самае неба, каб вярнуцца зноў на сярэдзіну вуліцы. Там Бусліха і аб'явіла, што няшчасныя куры сталі ахвярай інфекцыйнай хваробы, якую завуць чахранкай.

А самая хвароба бярэцца праўдападобна ад атручанай пшаніцы. Не трэба вучыцца на доктара, каб ведаць, што на ўсякую інфекцыю найлепшая бывае вакцына альбо народнае лякарства — агонь. Хіба з гэтай прычыны Бусёл і абяцаў пусціць з дымам Чахранаву пуню, дзе, як спадзяваўся, абсталявалася галоўная кватэра заразы.

Усё-такі яўную пагрозу ніхто, нават сам Чахран, не трактаваў сур'ёзна. Толькі дурань найбольшаму нават ворагу спаліў бы пуню, калі яна стаіць пустая, у дадатак някепска застрахаваная.

Час паказаў, што нашае разважанне было цалкам правільнае: згаданая пуня стаіць і сёння, як рэчавы доказ Буславага пустаслоўя.

Хаця, праўда, нейкае фатум кружыцца па-над ёю, бы дзіўны птах без ног, ды без крылляў; і не сядае, і не адлятае.

Спачатку малодшы Чахран абсталяваў тут фабрыку цацак для дзяцей. Фабрыка зараз жа папала ў руіну, калі толькі наш парламент забарніў аборты, а дарослыя пачалі больш асцярожна майстраваць пры, цяпер ужо небяспечных, прыборах. Былы кандыдат у фабрыканты кінуў усё ды памчаўся ў шырокі свет. Прытрымаўся крыху ў сталіцы, дзе заснаваў быў пяцьсот дваццаць пятую партыю.

Сёння дажывае праўдападобна ў нейкім вар'яцкім доме, куды папаў пасля таго, як перааpрануты за манашку прапагандаваў свядомае мацярынства ў клубе для пенсіянераў.

Сярэдні Чахран закончыў Вышэйшую школу будовы карабельных рухавікоў і, падмацаваны набытай адукацыяй, запланаваў адкрыць у бацькоўскай пуні прадукцыю высакаякасных прэзерватываў на экспарт у адну вялікую, хаця без толку перанаселеную краіну паўднёва-ўсходняй Азіі.

Сярэдні Чахран быў канчаткова супрацьлеглы свайму старэйшаму брату. І калі толькі пачаў маляваць новую шыльду на галоўнай сцяне пуні, усім стала вядома, што цацак для дзяцей ён напэўна вырабляць не будзе.

На жаль, свету не было дадзена перакапацца ў высокай якасці Чахранавага тавару. Вось калі першыя вагоны дацягнуліся да мяжы ў Малашэвічах, нашаму пробашчу паказаўся анёл.

— Альбо, альбо! — сказаў і пробашч, вядома, выбраў гэтае першае альбо. Зараз жа пазваніў міністру замежнага гандлю, каб пагутарыць крыху пра цэлае гэтае прадпрыемства. Калі хто-небудзь думае, што пасля такое гутаркі тавар аднак паехаў далей, тады ён моцна памыляецца.

Стаялі яшчэ нейкі час гэтыя няўдачлівыя прадукты на чыгуначнай ветцы; тавар крыху раскралі навакольныя юнакі, а рэшту, за малыя грошы, купіла нейкая партыя, каб раздаць іх дарма гэтым сваім членам, якія бываюць падатлівымі на апладненне нездаровымі поглядамі.

Ёсць яшчэ і трэці сынок. Той адкрыў у Беластоку турыстычнае бюро. Возіць дзяўчат на кароткія, санітарныя экскурсіі ў Гродна і назад, і гаворыць, што ніякіх нерухомых маёмасцей яму не трэба.

А Чахранава пуня замест прыкладна згарэць, як гэта робяць усе прыстойныя, нікому непатрэбныя, хаця заўсёды высока застрахаваныя пуні, стаіць і пустуе.

**Міхась Андрасюк**

# Апошнія з меляшкоўскіх магікан або Жыццё — гэта песня

*Працяг са стар. 3*

ляшкоўскіх баб здымаў. Бабы проста сядзелі пад крапівою на лаўках, спявалі, жартавалі.

Сёлета ў раённым аглядзе беларускай песні ў Беластоку выступілі ўсяго тры меляшкоўскія жанчыны — вельмі прарэджаны калектыў. Гэта былі: Валянціна Дарашкевіч, Галена Дарашкевіч і Ніна Лавіцкая. Але што ж ты зробіш! Адна, Насця Карповічка, памерла, уздыхае Валя Дарашкевіч. Яна ў нас была такая рыхтоўная — усё рабіла без праблем. Пяцьдзесят восем гадоў ёй было. Чатыры бабы моцна хворыя: Марыя Казёл, Ірэна Лавіцкая, Софія Пятэльская і другая Ніна Лавіцкая. А то цукровы дыябет, то інсульт з паралічам, то ледзь з палачкай ходзіць — як жа ім на сцэну?!

Ну, мы ў Таварыстве на Варшаўскай заспявалі ўтраіх, а вынік быў такі, што атрымалі „выруўненне", а на цэнтральны агляд нас не выбралі. Раней ніколі не было нас на аглядзе менш шасці-сямі чалавек. Што ж, раней было многа малодых, а цяпер усе ў горадзе. Мы тут на вёсцы адны старыя сядзім. Усе — каля шасцідзесяці гадоў. Ні ў каго не засталося наследнікаў. У мяне самой трое дзяцей і трое ўнукаў. Як цяля зарэжам, дык на чатыры чвэрткі падзелім. Як ляжу хворая, усё ўжо пра ўнукаў думаю. Адзін як толькі ўвойдзе ў хату, кажа: „Babciu, włącz „Поищу", ну, ведаеце, „Тополя". Любіць гэту касету! Але спяваем толькі мы, старыя. Мо наш фальклор ужо не такі добры... Як нас не стане, то ўжо і не знаю, ці хтосьці наш фальклор падніме, журботна канстатуе Валянціна Дарашкевіч.

У Меляшках гутараць на цудоўнай беларускай мове, амаль ідэнтычнай з літаратурнай. Адсюль паходзіць маці Лёніка Тарасэвіча, тут жыве і цётка Міркі Лукшы — Ніна Пятэльская, надта актыўная некалі ў драматычным гуртку. Мы яе прывезлі з Беластока дахаты, а яна паказала хату Валі Дарашкевіч, ды наказала іншым спявачкам, каб прыйшлі. Сядзім і гутарым.

Як калісь добра было, калі нас многа спявала, кажа Ніна Лавіцкая. Каб хоць нас пяць было, ну, але што, нарысуеш іх?! Няма ў нас другіх галасоў. Трэба паспрабаваць уцягнуць Фаню Бароду. Хаця ў яе таксама першы голас...

Усяго трое дзетак з Меляшкоў ходзіць у школу ў Гарадок. Такая была школа! — круціць галавой гаспадыня. Тысячагодка! І мураваная, і вада, і гімнастычная зала, і святліца. Я казала, што каб былі нам школу пакінулі, дык і дзеці з Веек даязджалі б, і з Падазеран. А так купіў яе нейкі італьянец, рабіў там крыху боты, але цешыўся гэтым ад сакавіка да ліпеня. Будынак стаіць без жыцця.



*Ніна Пятэльская выступала калісьці ў драматычным калектыве.*

Каб хоць крыху бліжэй да Гарадка было, а не пяць-шэсць кіламетраў, ну хоць так, як Белявічы, дык мо з Гарадком спявалі б!

Гарадок, кажу я, хоча наладзіць вам 6 мая вялікае святкаванне дваццацігоддзя калектыву, якое мінула ўжо ў дзевяноста чацвёртым годзе. Хоча зрабіць урачысты вечар, яны ўсё арганізуюць і выступяць з вамі разам!

О не, кажуць меляшкоўскія спявачкі. Мы сваіх хворых баб не пакінем, бо ж мы столькі гадоў разам спявалі. То ім будзе крыўдна. Ды і хацелася б у юбілей паспяваць сваім людзям, але ж уся вёска ў Гарадок не паедзе. А гарадоцкія спявачкі і так на нашых юбілеях заўсёды разам з намі спяваюць.

Я думаю, што ў меляшкоўскіх спявачак нарадзілася вельмі добрая думка: каб даязджаць да Гарадка і спяваць разам з гарадоцкім калектывам. Ды толькі клопат: аўтобус з Меляшкоў у Беласток праз Гарадок ідзе адзін раз у суткі — ранні ранніцай, а вяртацца трэба было б каля шостай вечара. То што, цэлы дзень марнаваць на рэпетыцыю?! Веру аднак, што спявачкам дапаможа зычлівы гарадоцкі войт: напэўна ён знойдзе для іх нейкі транспарт.

Але ж мы фальклорныя песні спяваем, заўважае адна з жанчын...

— Ну, то хоць бы штосьці спявалі, каб не ўмерці! — рашуча сцвярджае Валянціна Дарашкевіч. Для яе жыццё гэта песня.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**



© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Прабач мне, што ізноў пішу табе. Але, бачыш, папярэдні сон разгадаў ты мне вельмі трапна, — сказаў: „Прадвяшчае ён табе нейкую страту або хваробу". Не давялося доўга чакаць — захварэў я грыпам. Праляжаў у ложку больш як тыдзень. Ляжаць я не люблю, тым больш, што злезці з ложка я мог. Але жонка загадала: „Хочаш выздаравець — ляжы, гарачае піва з мёдам папівай". Сама яна мне яго і купляла. Ну, думаю, хай будзе піва, бо гэтых пілюляў ды сіропаў то я не люблю. Ну грэўся, пацеў і гарачку збіў, хваробу выгнаў. Цяпер здаровы, як бы таго грыпу і не было. Ну, але адбег я ад тэмы. Мне ж вось зноў нейкі дзіўны сон прысніўся. Крыху нават перапалохаўся я, бо зноў купалы бачыў. Але ад пачатку. Быццам бы мы з дачкой едзем заграніцу, канкрэтна ў Смаленск. Здалёк бачым купалы, вельмі прыгожыя, бліскучыя. Яшчэ большага бляску дадае цудоўнае надвор'е і моцнае сонца, якое так ярка свеціць. Я кажу дачцэ, што яшчэ далёка нам туды, а яна адказвае: „Не, тата, ужо блізка".

Сцяпан

Сцяпане! Думаю, што на гэты раз нічога кепскага цябе не чакае. Наадварот, можаш спадзявацца толькі добрага. Перш за ўсё аб гэтым сведчыць тое, што вы з дачкой ехалі заграніцу, а гэта ўжо гаворыць аб тым, што будзе нейкая змена на лепшае. Свяціла сонца і было цудоўнае надвор'е — будзе поспех у справах, а нават і тыя царкоўныя купалы, што свяцілі пазалотай на сонцы і былі вельмі прыгожыя, можна разглядаць як твор мастацтва, а не штосьці, звязанае са смуткам.

Астрон

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. дзяржава ў Акіяніі са сталіцай Фунафуці, 3. ядавітая расліна, 5. загана, 7. цяжар цела, маса, 9. планета, 10. усенароднае апытанне, 11. горад у Палесціне, 12. дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы, 14. старажытнагрэчаскі філасоф-матэрыяліст, 16. вялікі літоўскі горад, 17. паўвостраў у Паўночнай Амерыцы.

**Вертыкальна:** 1. цела без галавы і канечнасцей, 2. павелічальнае шкло, 3. расейскі паэт-сімваліст, 4. казацкі камандзір, 6. прыбудоўка перад уваходам у пограб, склеп, 8. весялун, непаседа, 9. горад на паўночных схілах Цянь-Шаня (Джунгарыя), 11. опера Манюшкі, 13. род літаратурнай творчасці, 14. апавядальны род мастацкай літаратуры, 15. горы ў Расеі.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**АДКАЗ НА ВІРАВАНКУ З 12 НУМАРА:**

футляр, Латвія, вакуум, утопія, каргар, сімвал, кісель, царква, калгас, гарэза, Эльзас.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх і Аляксандру Дабчынскаму з Беластока.**

## Легенды нашай зямлі

***

Батанічны парк у Белавежы знаходзіцца непадалёк вакзала Белавежа-Палац. Адгэтуль шматлікія групы экскурсантаў выходзяць у запаведнік Белавежскага нацыянальнага парку і ў звярыныя запаведнікі. Цераз парк, які займае плошчу ў 50 гектараў, цячэ рака Нараўка. Тут расце прыгожая чародка старых векавых дубоў, аб якіх легенда гаворыць, што памятаюць яны язычніцкія часы і што пад імі складалі ахвяры. Пры панаванні Станіслава Аўгуста Панятоўскага агароджа абнімала дуброву так, што яна знаходзілася пасярод замкавага дзядзінца.

***

Сярод жыхароў вёскі Сакі, што ў Кляшчэлеўскай гміне, жыве легенда пра ікону святога Дзмітрыя Салунскага. Падчас нашэсця татараў жыхар Сакоў папаў у няволю і трапіў у Турцыю. Там заставілі яго працаваць у пякарні. У ёй печ застаўлялі дошкай, на якой быў намаляваны святы Дзмітрый. Для людзей ісламскага веравызнання ікона не была святасцю.

Аднойчы нявольнік-хрысціянін убачыў у сне юнака, які папрасіў забраць з сабой дошку ад печы. Нявольнік узяў ікону і, клаўшыся спаць, трымаў яе пад галавой. Калі прабудзіўся, угледзеў, што знаходзіцца ў родных Саках. На месцы прабуджэння пабудавалі царкву. Многія атрымоўвалі цудоўныя аздараўленні перад іконай. Царква на нейкім часе згарэла, але ікона ацалела. На тым месцы зноў пабудавалі храм.

**Янка Целушэцкі**

## ПАРНАСік

Чытальніцкая літпаліца на негарантаваных паях

### Птушка

Птушка, ты прыгожая,
Колеры твае розныя —
Ад сіняга, чырвонага
Да белага, чорнага.

Тваіх красак не пералічыць.
Цябе трэба любіць
Як вернага сем'яніна
І добрага селяніна.

Як ніхто ты працуеш
І ніколі не злуеш.
Хаця часта і галодная,
Мне ты карысная, родная.

Шкоднікаў лоўка ты ловіш,
Прыроду бароніш.
Пасевы, агароды, сады
Ратуеш ты ад бяды.

І песні спяваеш,
І свет праслаўляеш.
Трэлі і песні цудоўныя,
Прыгожыя, непаўторныя.

**Мікалай Панфілюк**

## Карысныя парады Янкі Целушэцкага

### Май у гаспадарцы

Пачынаюцца сапраўдныя палявыя работы. Садзіць бульбу, сеяць грэчку і кукурузу. Садзіць капусту і памідоры. Выпускаць жывёлу на пашу. Пры гэтым трэба памятаць, каб выкарыстоўваць пашу па частках, не ўсё адразу. Садзейнічае гэта добраму адрастанню травы. Ачысціць вадаадводныя равы. Дзеля ўтрымання вільгаці на сенажацях і пашах наладзіць у равах застаўкі ў адпаведных месцах.

Купіць парасят. Стрыгчы авечкі. Даглядаць пчол — павялічыць колькасць сотаў, знішчыць непатрэбныя матачнікі.

## Май у прыказках

Май — коням сена дай, а сам на печ уцякай.

Да Міколы не стрыжы авечак ніколі.

Па Міколе не сей аўса ніколі.

Майская кропля дажджу даражэй золата.

Май халодны — хлеб пладародны.

## Рады Аўроры

### Як пазбавіцца перхаці і што рабіць, калі без прычыны свярбіць галава?

У маі крапіва мае найбольш соку. Трэба нарваць два кілаграмы крапівы (лісце разам са сцяблом), прапусціць праз мясарубку. З зялёнага месіва выціснуць сок — можна, напрыклад, цераз марлю ці палатно. Адцісную сок падзяліць на дзве часткі. Адну частку ўціраць у скуру галавы і мачыць валасы, галаву абвязаць хусткай і так трымаць паўгадзіны. Да другой часткі дадаць два яйкі. Змяшаць усё так моцна, каб не было відно ні жаўтка, ні бялка, і гэтай сумессю, як шампунем, мыць галаву. Зрабіць гэта па два разы ў тыдзень, пакуль у крапіве ёсць многа соку. Я праверыла дабрадзействы гэтага метаду на валасы і скуру галавы, і раю яго чытачам.

**Калі апарышся кіпетнем,**

і калі на апараным месцы няма пухіра, толькі чырвоная пляма, то месца пасыпі содай ці палі воцатам два — тры разы ў дзень, і на апараным месцы злушчыцца скура ды нарасце новая. Калі ёсць пухіры, і яны лопаюць, тады найлепш тыя месцы часта шмараваць сокам з альясу (называюць яго ў нас і бальсонам), пакуль сок не высахне. Рана так загоіцца, што і знаку не будзе ад апёку.

Аўрора

## Хто вялікім паэтам быў?!

„Лермантаў" украў ялоўку пад, скажам, Сарочай Ножкай ці Галяковай Шыяй, а ўсхвалявала гэта вельмі сур'ёзных людзей у Менску ці ў іншай культурнай сталіцы Еўропы.

Людзі смяротэльна сур'ёзныя — найбольшая пагроза для культуры і ўвогуле цывілізацыі. І з гарматаў будуць яны заклікаць біць па ўсіх Ведзьмаках Лысагорскіх ці сціпленькім Вандале Арлянскім, бо яны, тыя блазны, бадай іх трасца, хочуць паскідаць з крэслаў усіх бацькоў народа і іхніх бардаў, а невядома, за чые грошы і „хто за гэтым стаіць" („Но мы всех их, конечно, знаем!")!

Давайце, вернемся да ялоўкі, якую ўкраў Ігнат „Лермантаў" у досыць смешнай „замалёўцы з жыцця" Аўроры. Хто яе памятае? Той, хто „Ніву" чытае! Праўда, тэкст не быў настолькі істотны, каб загружваць ім чыю-небудзь памяць. Але 12 лютага 1990 года ў „Ніву" прыйшоў ліст аж на двух лістках, падпісаны ўсхваляванай рукой малодшага навуковага супрацоўніка Акадэміі навук Беларусі, сябры Таварыства беларускай мовы і г.д. Кранае ён справу напісання прозвішча Лермантаў у загалоўку без двукоссяў. „Скажыце, а як будзе гучаць: „Максім Багдановіч украў ялоўку"?! „Шолам-Алейхем украў ялоўку"?! Выглядае зняшчэнне Вашай газетай жыццёвай гісторыі, прабачце, паскудствам, спробай запэцкаць імя, якое для беларусаў таксама святое, як імёны Багдановіча і Міцкевіча (...). Аўрора абразіла ў маіх вачах сябе, а газета „Ніва" панізіла свой аўтарытэт, змясціўшы яе пераказ. Не шануючы чужыя святыні, мы губляем маральнае права патрабаваць і чакаць ад другіх нацый шанаваць нашы беларускія святыні. Мы прыніжаем сваё нацыянальнае (...). Далёка слову Аўроры да таго слова, пра якое пісаў беларус Алесь Гарун:

*Гэй, ты маці, родна мова,*
*Гэй, ты звон вялікі, слова,*
*Звон магучы,*
*Звон бліскучы,*
*З срэбра літы,*
*З злота зьбіты,*
*Загрымі ты,*
*Загрымі!"*

Далей я, В. Арлянскі, не буду цытаваць абсалютна слушныя словы аўтара ліста пра Міхаіла Юр'евіча Лермантава, карані мовы беларускай і рускай, „Слова аб палку Ігаравым", 175-цігоддзе ад дня нараджэння пісьменніка, „які вялікім паэтам быў". Дарэчы, адчуваю вялікую сімпатыю да аўтара ліста, і дзякую яму за тое без ніякай кпіны, што апроч шматлікай інфармацыі даў мне нагоду паправіць сабе настрой. Баюся, аднак, што гэты надта сур'ёзны сябра „намеснік старшыні" групы, якая змагаецца за справядлівую справу ў горадзе Менску, патрактуе мяне як нігіліста і блазна, што пасмеў жартаваць са святыняў!

Ну, што ж, ахрысцілі мяне Вандалам. Казалі, гэта ад жаночага імя Ванда. Можа, ад нечага іншага?.. От, ведаеце, хочацца чалавеку штосьці параскідаць, пакаламуціць, паграбіці ў „вартасцях", а асабліва давесці да белай гарачкі стражнікаў варот святыні!

**Вандал Арлянскі**

**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

## Здубавеццa

**Дай Божа!**

Да святара прыйшла дзеўка-перастарак. Як у нас казалі, яна на высадкі засталася. І дапытваецца ўсё ў святога айца, ці выйдзе замуж. Ён глядзіць на нехлямяжую дый прыгаворвае:

— Дай Божа, дай Божа, ды не ведаю...

**Перажывём неяк**

Ва Ушачах быў, так было мовіць, мастак, што ў асноўным піў, як у бот ліў. Часам на чарніла (фарбы былі казённыя) зарабляў, ледзьве пэцкаючы нахітрыя савецкія плакаты раённага маштабу ды афішы, калі якое кіно будзе. Сустракаю гэнага мастака падчас хрушчоўскай кампаніі барацьбы з фармалістамі і абстракцыяністамі. Як і належыць — п'яны-п'яны. Суцяшае сябе і мяне за кампанію:

— Ну, нічога. Нас усіх б'юць, перажывём неяк.

**Гасціннасць**

Сват сваццю частаваў ды прыгаворваў:

— Хлібай, хлібай сваццá, а то ўсё роўна сучка з'есць...

**Толькі з Панам Богам**

Пасля вайны з Заходнй Беларусі шмат хто імкнуўся паехаць у Польшчу. (Хоць пасля пісалі: ожэл бялы, але жонд радзецкі). Агітатарам з Усходняй было дадзена заданне чыніць перашкоды. У бальшыне сваёй ад'язджанцы гэтыя былі палякамі касцельнымі. І вось на адным сходзе ўшацкі актывіст вырашыў пасадзіць маладзіцу ў галёш. Просіць:

— Ну, калі ты полька, пагавары са мной па-польску.

Маладзіца адсекла:

— Па-польску я толькі з панам Богам размаўляю, а з такім чортам, як ты, і гаварыць не хачу.

Зала грымнула рогатам. Агітацыя была зведзена на нішто.

*(Вожык)*

## СЕНТЭНЦЫІ

Калі хочаш дайсці, ідзі сярэдзінай.

* * *

Крайнасць узбуджае, але хвараблівая.

* * *

Калі не маеш сваіх ног, не разлічвай на чужыя.

* * *

У цыклона звычка сабачая — круціцца за сваім хвастом.

* * *

Між днём і ноччу — паміранне, між ноччу і днём — уваскрашэнне.

**Барыс Руско**







Малюнак В. Ключніка

## МЕДЗЬ

Адзін хлопец меўся жаніцца і купіў на базары заручальныя пярсцёнкі. Пасля пайшоў да ювеліра праверыць ці яны залатыя. Ювелір агледзеў пярсцёнкі і сказаў, што гэта не золата толькі медзь.

— Лепш мець, чымсьці не мець, — адказаў хлопец.

* * *

— Якая розніца паміж паляўнічым і лекарам?

— Паляўнічы спярша забівае, а потым лупіць скуру. Лекар — наадварот.

* * *

Паехалі мужык з жонкай на рынак купіць карову. Выбралі, старгавалі, заплацілі. І пытае мужык у прадаўца, колькі тая карова малака дасць. Прадавец адказаў, што тры разы па вядры.

Прывялі карову да сябе і пачалі даіць. Рана дала карова па вядры нагою, апоўдні і вечарам таксама.

* * *

Купіў чалавек у цыгана каня. Заплаціўшы, спытаў, якую загану мае гэты конь.

Скажу табе праўду, — адказвае цыган, — не хоча ён жалеза есці і на дрэва лезці.

Гэта не заганы, падумаў мужык. Жалезам я яго не буду карміць, а і па дрэвах конь лазіць не мусіць. Прывёў каня на панадворак, упусціў у стайню. На другі дзень раніцаю залажыў каню аброць і хацеў закілзнаць. А конь не бярэ цугляў у зубы. Многа той гаспадар намучыўся пакуль урэшце каня закілзнаў. Запрог каня ў воз і едзе. Даехаў да драўлянага моста, а конь запёрся і не хоча на мост уваходзіць. Тут і ўсвядоміў мужык, што цыган яму праўду сказаў.

**Аляксандр Барташэвіч**

## Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму

**Шаноўная рэдакцыя! Дасылаю вам ліст, які я атрымаў ад Лукі Мудзішчава ў адказ на маю паэму.**

**Вядзьмак Лысагорскі**

Хто канфрантацыі ня ішчэт,
Цем канструкціўны дам атвет.
Пусьць я Лука! Пусьць я Мудзішчаў,
Но я яшчо і прэзідэнт.

Што нада на этапе этам?
Халяўный газ, нефць за пятак.
Нам, бедным, нішчым і разьдзетым,
Расія даст за проста так.

І зашчыціт нас ад угрозы
Капіталізма крумкачоў.
Ня страшны войны і марозы —
Есьць Жырыноўскі, есьць Грачоў.

Наш друг, канешна, і Лімонаў.
Он рускій! Значыт, старшый брат.
Ня нада сьлёз! Ня нада стонаў!
Он рассуждает, как Сакрат.

Пусьць он фашыст! Что тут такога?
Ведзь на хлябах славянскіх взрос.
А еслі жэнственен нямнога,
Я жэнскій разрешу вапрос!

І хваціт вам крычаць пра мову!
Ва мне вапрос так не стаіт.
Тот, хто січас доіт карову,
Пусьць хоць іўрытам гаваріт.

Я эту так праблему віжу,
Всех завяряю, всем крічу:
Рускаязычных не абіжу
І ліц каўказскіх зашчышчу.

Сматры ты! Мовы захацелі!
Ня выйдзет, братцы спадары!
Мы 200 лет зазря пацелі?
А вы апяць — „куры", „вары"?

Я рэч скажу, а не прамову.
Адзін сьверхсрочнік заявіў:
„Нашто цяпер нам гэта мова?
На ней Ільіч не гаваріў!"

Есьць пра сімволіку бумага.
Мне КГБ наш далажыў,
Што пад вот эцім самым флагам
Пазьняк у кайзера служыў.

Зачем, скажыце, герб Пагоня?
Какой в ней смысл? Какой в ней толк?
Я верю: нас яшчо дагоніт
любімый серп і малаток.

Сярпом мы мафію па месту,
Гдзе разьмясціўся божый дар.
А малатком всем, хто ня чэсный,
Народный нанясём удар!

Я выпалняю волю вашу
С Масквою Мінск навек злучыць,
Штоб сынаўя всех жэншчын нашых
Смаглі в Чачэніі служыць...

Пускай ваюют і мужают,
Пусьць ахраняют рубяжы.
Мне вецераны заяўляют:
„Так, мол, і Ельцыну скажы".

В каторый раз гаварім снова
І паўтараем вноў і вноў,
Што на себя мы ўзяць гатовы
Часць сьвежых цынкавых грабоў.

В ядзінстве толька наша сіла.
Нам так Расія памагла!
Ат мовы нас асвабадзіла,
Ат Каліноўскага спасла.

І ненадзейцесь, экстрямісты!
Нас без Расіі проста нет.

Ваш самый чесный,
Самый чыстый
Лука Мудзішчаў — прэзідэнт.

*(перадрук з менскай газеты „Свабода")*




Дарагое Сэрцайка! Прабач мне сёння, мо я і непатрэбна ўмешваюся ў чужыя справы. У суседнім доме жывуць людзі — абое інваліды, і муж і жонка. Ён маленькага росту, а да таго ледзь ходзіць, яна таксама мае нешта з нагамі. У іх двое дзяцей, і яны, на жаль, таксама калекі. Цяжка глядзець на гэтых дзетак — ніводнае не ходзіць, і ў аднаго, і ў другога інвалідная каляска. Дзеці ў школьным узросце. Да іх часта прыходзяць сябры, летам возяць іх па панадворку, размаўляюць з імі. Не ведаю нават, ці ходзяць яны ў школу, але думаю, што так.

Фактычна я не звяртала ўвагі на іхнюю бяду, бо і не лічыла бядою тое, што інвалід меў дзяцей-інвалідаў. Гэта ж дарослыя людзі, ведалі, што рабілі. Маглі прадбачыць, што дзеці народзяцца калекамі. А, зрэшты, кожны сам сабе пан — іхняя справа. Людзі кажуць: умяшаешся ў чужое сямейнае жыццё — ворагам на ўсё жыццё застанешся.

Але здарылася так, што прыехалі да нас госці з-за граніцы. Выйшлі мы прайсціся, а тут насустрач нам два інваліды пхаюць перад сабой дзве інвалідныя каляскі з дзецьмі. Госця наша глянула з нейкай агідай на гэтых людзей, ды кажа: „Божа, што гэтыя людзі сабе думаюць?!"

Мая 8-гадовая дачушка глянула на яе са здзіўленнем ды кажа: „Цёця, яны ж таксама людзі! Як ты можаш ім гэта проста ў твар!"

Але цётка з-за граніцы зараз жа растлумачыла, што ёсць людзі разумныя і дурныя. У іх у Германіі, напрыклад, калі людзі ведаюць, што маюць нейкую спадчынную хваробу, якая перадаецца праз пакаленні, ніколі не рашаюцца мець дзяцей. Вось яе муж, напрыклад, хварэе цукровым дыябетам і таму ніколі яны не мелі дзяцей — дзеці маглі б таксама хварэць гэтай хваробай.

Я слухала яе разважанні і не была ўпэўнена, хто выйшаў на гэтым лепш — ці мая багатая цётка, сумная без дзяцей і надзеі на будучыню, ці тыя інваліды, якія, самі хворыя, мусілі выхоўваць хворых, але вясёлых дзетак.

А як ты, Сэрцайка, мяркуеш, ці лепш робяць тыя, што не рашаюцца на дзіця ў падобнай сітуацыі, ці лепш так, як у нас? Цяпер жа ў нас, здаецца, і даследаваць перад нараджэннем дзіцяці нельга: якое яно ёсць, такое мае і радзіцца.

**Наталля**

Наталля! Цяжка адказаць адназначна. Кожны чалавек мае права на шчасце. Усё залежыць ад таго, як хто сабе гэта шчасце ўяўляе. Адзін шчаслівы, бо няма ў яго хворых дзяцей — дык няма клопатаў. Другі шчасце знаходзіць у тым, каб пакінуць на свеце сабе падобнага — незалежна ад таго, які ён народзіцца. Але што будзе, калі бацькі памруць — такі лёс чалавека, — а недалужнае дзіця застанецца?!

Мо таму лепш думаць пра дзяцей, а не пра сябе. Я — у гэтым выпадку за нямецкія звычаі. Лепш чужое дзіця ўзяць на выхаванне, чым свядома пускаць на свет нешчаслівага чалавека. Не веру тым, што ўсміхаюцца, едучы ў калясцы інваліда. Хаця інстынкт самазахавання ўласцівы кожнаму жывому чалавеку, дык, думаю, дзіця-калека няраз праклінае сваіх бацькоў за тое, што падаравалі яму менавіта такое, поўнае горычы, жыццё.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015